ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 29 (2608)
ПЯТНІЦА
21
ліпеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



50 год утварэння СССР

Кожны год Масква ўлетку робіцца форумам тэатральнага мастацтва. Цяпер на сталічных сцэнах дэманструюць свае дасягненні прадстаўнікі Эстоніі і Грузіі, Украіны і Расіі. У памяшканні МХАТа, там, дзе калісьці развінула крылы чэхаўская «Чайка» і паімчаў па рэйках «Браняпоезд 14—69» Ус. Іванава, дэбютаваў Горкі-драматург і заваёўваў усесаюзны аўтарытэт А. Карняйчук, на падмостках, якія помняць крокі К. Станіслаўскага і І. Масквіна, В. Кніпер-Чэхавай і М. Хмялёва, М. Лілінай і В. Качалава, сёлета ў ліпені вось ужо трэці тыдзень выступае Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, вядучы драматычны тэатр беларусаў.

Масквічы аднадушна адзначаюць жанравую разнастайнасць яго рэпертуару, маштабнасць і глыбіню арыгінальных сцэнічных вобразаў, самастойнасць рэжысёрскіх пошукаў, выразны нацыянальны характар артыстычнага мастацтва. Адбываюцца хвалюючыя сустрэчы купалаўцаў з гледачамі, з калегамі, з крытыкамі. Трупа мае магчымасць яшчэ і яшчэ раз ўзважыць свае каштоўнасці і пралікі, праверыць сябе перад патрабавальнай і добразычлівай аўдыторыяй. Перад аўдыторыяй не толькі сталых масквічоў—на спектаклі беларускага тэатра імкнуцца патрапіць і шматлікія госці сталіцы.

**По просьбе рэдакцыі фотакарэспандэнты «Литературной газеты» А. Любімаў і І. Сідараў сфатаграфавалі групу купалаўцаў каля галоўнага ўваходу ў памяшканне славутага МХАТа.**

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

НАДЗЁННАЕ, НЕАДКЛАДНАЕ

# РАБОЧАЯ ТЭМА Ў ЛІТАРАТУРЫ...

РАБОЧЫ, рабочая тэма ў літаратуры... Словы гэтыя ўсё часцей можна сустрэць на старонках літаратурных часопісаў і газет, пачуць на пісьменніцкіх сходах і чытацкіх канферэнцыях. Адчуваецца жывы, гарачы клопат, прадыктаваны надзённымі патрэбамі нашага сацыялістычнага грамадства, паказаць на ўвесь рост не толькі чалавека працы наогул, але перш за ўсё прадстаўніка сучаснага рабочага класа. Асабліва моцна гэтая заклапочанасць выявілася пасля XXIV з'езда КПСС, які, даўшы навукова-абгрунтаваную праграму далейшага руху савецкага народа да камунізма, падкрэсліў узрастаючую ролю рабочага класа ў жыцці нашага грамадства. Урэшце, надзённая неабходнасць асвятліць сацыялістычныя, эканамічныя і маральныя праблемы жыцця сённяшняга савецкага рабочага і на гэтай жыватворнай глебе стварыць вобраз такога літаратурнага героя, з якога можна было б браць прыклад, «рабіць жыццё», другімі словамі «выхоўваць масы на працоўных традыцыях слаўнага рабочага класа нашай краіны»,—асоба адзначыў і XV з'езд прафсаюзаў СССР. Гутарка ідзе, як бачым, не проста аб паказе чалавека працы, звычайнага працаўніка (характар якога заўсёды быў і будзе прадметам мастацкага даследавання), а менавіта аб канкрэтным паказе літаратурнага героя з асяроддзя рабочага класа і яго авангарда—партыі камуністаў.

У абвостранай ідэалагічнай барацьбе, калі на Захадзе наўмысна ўсяляк прыніжаецца роля рабочага класа ў сучасным свеце, шматлікі савецкі чытач яшчэ з большай падставай чакае ад мастацкай літаратуры выразнага адказу на пытанне: што ж на самой справе ўяўляе сёння з сябе рабочы чалавек, як жыве ён, як у ім прачынаецца, расце, дужэе класавая свядомасць, як яна праяўляецца ў паўсядзённым жыцці... Менавіта ж для рабочага класа ІДЭАЛЫ ПАРТЫІ, ІДЭАЛЫ КАМУНІЗМА СТАЛІ СУТНАСЦЮ ЎСЯГО ЯГО СВЕТАПОГЛЯДУ. Такім чынам, стварыць вобраз рабочага чалавека, актыўнага змагара за справу камунізма, ва ўсёй шырыні яго інтарэсаў, багацці думак і пачуццяў, які б паланіў сэрца чытача эстэтычнай дасканаласцю — пачэсны грамадзянскі абавязак савецкага літаратара.

Нельга сказаць, каб у мастацкіх творах апошніх год беларускія пісьменнікі абышлі магістральную тэму савецкай літаратуры. Тэма рабочага класа, тэма горада выразна гучыць у творах І. Шамякіна, Ул. Карпава, А. Савіцкага, Т. Хадкевіча, А. Кулакоўскага, М. Матукоўскага і іншых. Карацей, ёсць пэўныя здабыткі. На Усесаюзным конкурсе 1970—1972 гадоў на лепшы твор аб сучасным савецкім рабочым класе была адзначана заахвочвальнай прэміяй дакументальная аповесць А. Савіцкага «След пракладвае першы». Чытачы памятаюць —аўтар расказаў у ёй пра калектыў сталявараў Мінскага аўтазавода, пра Героя Сацыялістычнай Працы Д. І. Барашкіна. Бясспрэчная вартасць аповесці ў тым, што А. Савіцкі на багатым фактычным матэрыяле, на лёсе сталявара Барашкіна паказаў, як складваўся рабочы калектыў першынца беларускага аўтамабілебудавання. І меў рацыю сказаць адзін з прадстаўнікоў гэтага калектыву, майстар плавільнага ўчастка сталеліцейнага цэха С. Чуб, што аповесць «мае вялікае выхаваўчае значэнне».

Некалькі твораў пра рабочага чалавека належаць пяру В. Мыслівца. Яны прывабліваюць добрым веданнем маладым празаікам жыцця рабочых, разуменнем іх праблем, пошукамі. Менавіта гэтыя пошукі В. Мыслівца ў асваенні «рабочага мацерыка» падкрэсліў нядаўна ў сваім артыкуле «Новыя набыткі рабочай тэмы» пісьменнік М. Воранаў («Литературная газета», № 12, 1972 г.).

Аднак у цэлым прычын для самасупакоенасці няма. Тое, што зроблена беларускімі пісьменнікамі па адлюстраванні тэмы рабочага класа ў літаратуры, крайне недастаткова. Ды і не заўсёды гэтыя мастацкія творы адпавядаюць эстэтычным крытэрыям часу. Як слушна адзначыў на VI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі Максім Танк, нямала ў нас твораў «напісана пра горад, але большасць з іх узнімаюць праблемы, якія маюць месца ў асяроддзі інтэлігенцыі. На вялікі жаль, пра рабочы клас мы пішам усё яшчэ мала». Гэткі справядлівы дакор вельмі часта чуе пісьменнік, выступаючы ў рабочых аўдыторыях... Разам з тым, трэба ўлічваць, што прыкметна павысілася і патрабавальнасць чытача, з якой ён ставіцца да мастацкіх твораў аб рабочым чалавеку. Сёння ўжо недастаткова ў творы пра рабочы клас аднаго «індустрыяльнага пафасу», паказу толькі сферы вытворчых адносін—гэткі паказ збядняе духоўны свет сучаснага героя... Гутарка ідзе аб разнастайным і шырокім узнаўленні духоўнага аблічча чалавека працы, яго спраў, не абавязкова выключных, але абавязкова напоўненых жывой творчасцю, прасякнутых страсным імкненнем быць карысным грамадству. Пісьменніку неабходна, паказваючы рабочага чалавека, яго багаты і складаны ўнутраны свет, адказваць чытачу не толькі на пытанні, якія стымулы рухаюць гэтым чалавекам у працы, але і які ён, рабочы, у звычайным жыцці, асяроддзі, які ў самых розных сувязях з навакольным.

Ёсць і другія аспекты гэтай важнай праблемы. Выказваючы на студзеньскім пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР сур'ёзную заклапочанасць тым, што шэрагу кніг пра рабочы клас усё не хапае сапраўднай глыбіні ў раскрыцці характару сучасніка, якому ўласцівы лепшыя класавыя рысы і якасці, дакладчык В. Озераў звярнуў увагу на наступнае: у гэтых кнігах ёсць розныя публіцыстычныя меркаванні па розных праблемах, апісваюцца падзеі, якія адбываюцца на вытворчасці, але адсутнічае мастацкае асэнсаванне сацыяльна-этычнага зместу перамен, што прынесла навукова-тэхнічная рэвалюцыя...

Сапраўды, мы жывём у час нябачнага навукова-тэхнічнага перавароту. Аб гэтым нямала пішуць нашы сацыёлагі. Яны справядліва сцвярджаюць, што ўсё больш актыўна ідзе працэс якасных змен у рабочым класе, што навукова-тэхнічная рэвалюцыя нараджае новыя прафесіі, звязаныя з комплекснай механізацыяй і аўтаматызацыяй вытворчасці, адначасова скарачае некаторыя старыя прафесіі, звязаныя, перш за ўсё, з цяжкай фізічнай працай і г. д. А прафесія, змест працы, у значнай ступені вызначаюць і сацыяльнае аблічча, сацыяльную актыўнасць нашага сучасніка-

## НАРАДА ІДЭАЛАГІЧНЫХ РАБОТНІКАЎ

У Мінску 18 ліпеня адбылася скліканая ЦК КПБ рэспубліканская нарада ідэалагічных работнікаў. У ёй удзельнічалі кіраўнікі рэспубліканскіх міністэрстваў і ведамстваў, работнікі газет, часопісаў, выдавецтваў, тэлебачання і радыёвяшчання, навуковых устаноў, устаноў культуры, армейскія палітработнікі, сакратары партыйных камітэтаў, намеснікі старшынь выканкомаў гарадскіх і раённых Саветаў дэпутатаў працоўных, кіраўнікі ідэалагічных устаноў горада Мінска і Мінскай вобласці.

Нараду адкрыў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі П. М. Машэраў.

З дакладам «Вынікі ўсесаюзнай нарады ідэалагічных работнікаў па пытаннях ідэйна-выхаваўчай работы ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС і ў сувязі з падрыхтоўкай да 50-годдзя ўтварэння СССР і задачы партыйных арганізацый рэспублікі» выступіў сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін.

У спрэчках па дакладзе выступілі міністр вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР М. М. Мяшкоў, сакратар Мінскага гаркома КПБ Т. Ц. Дзмітрыева, міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч, рэдактар рэспубліканскай газеты «Звязда» М. І. Дзялец, сакратар Салігорскага гаркома КПБ А. Г. Міхаленя, сакратар ЦК ЛКСМБ Г. П. Анціпаў, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні М. А. Суша, намеснік начальніка Палітупраўлення ЧБВА В. А. Захараў, першы намеснік міністра асветы БССР А. І. Канцавая, сакратар Мінскага абкома КПБ У. С. Багданаў, старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі пры Савеце Міністраў БССР Я. П. Нікулкін і намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі П. Б. Жукоўскі.

У рабоце нарады ўдзельнічалі другі сакратар ЦК КПБ А. Н. Аксёнаў і намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова.

БЕЛТА.

## ВІНШУЕМ!



### УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

**АБ ПРЫСВАЕННІ ТАВ. МЕЛЕЖУ І. П. ГАНАРОВАГА ЗВАННЯ НАРОДНАГА ПІСЬМЕННІКА БЕЛАРУСКАЙ ССР**

За вялікія дасягненні ў развіцці беларускай савецкай літаратуры прысвоіць тав. Мележу Івану Паўлавічу ганаровае званне народнага пісьменніка Беларускай ССР.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
**Ф. СУРГАНАЎ.**
Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
**Л. ЧАГІНА.**

19 ліпеня 1972 года,
гор. Мінск.

### УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

**АБ ПРЫСВАЕННІ ТАВ. ШАМЯКІНУ І. П. ГАНАРОВАГА ЗВАННЯ НАРОДНАГА ПІСЬМЕННІКА БЕЛАРУСКАЙ ССР**

За вялікія дасягненні ў развіцці беларускай савецкай літаратуры прысвоіць тав. Шамякіну Івану Пятровічу ганаровае званне народнага пісьменніка Беларускай ССР.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
**Ф. СУРГАНАЎ.**
Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
**Л. ЧАГІНА.**

19 ліпеня 1972 года,
гор. Мінск.



### З УЗНАГАРОДАЙ!

*За заслугі ў развіцці тэатральнага мастацтва і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў галоўнага рэжысёра Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра імя ЛКСМ Беларусі, народнага артыста Беларускай ССР Волкава Георгія Андрэевіча Ганаровай Граматай Вярхоўнага Савета БССР.*

□

*За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка Махнача Алеся Іванавіча Ганаровай Граматай Вярхоўнага Савета БССР.*

—ДЗЯДУЛЯ, я сёння паслала пісьмо Анджэле Дэвіс! — вось якую навіну паведаміла мне вучаніца трэцяга класа.

Так, гэта вялікая навіна. Гэта—велізарная падзея ў жыцці дзіцяці, па ўзросту маленькага чалавека, які жыве вялікімі хваляваннямі цэлага свету.

Калі гнеў, абурэнне супраць зла, несправядлівасці, якія творацца на другім канцы планеты, перапаўняюць не толькі нас, дарослых, але па-асобаму адгукаюцца ў дзіцячым, чулым і ўражлівым сэрцы,—гэта не можа не выклікаць нашай грамадзянскай гордасці за духоўныя заваёвы грамадства, у якім пачуццё інтэрнацыянальнага абавязку з самага ранняга дзяцінства ўваходзіць у маральную свядомасць чалавека.

З асаблівым хваляваннем думаеш аб гэтым зараз, калі народы нашай краіны, народы ўсяго прагрэсіўнага свету сустракаюць слаўны юбілей вялікай дзяржавы, якая жыве па запаветах Леніна, па законах сардэчнага адзінства, дружбы і братняга раўнапраўя.

Для нас, дзіцячых пісьменнікаў, няма большага шчасця, чым служыць самым юным грамадзянам гэтай нябачанай у гісторыі дзяржавы, выхоўваць сапраўдных патрыётаў Радзімы, людзей, якія заўсёды адчуваюць і ўсведамляюць свой братні абавязак і адказнасць за сваю будучыню і за шчасце чалавека на зямлі.

Зараз, калі партыя рашэннямі свайго XXIV з'езда паставіла перад намі задачу фарміравання духоўна і эстэтычна багатай асобы савецкага чалавека, мы асабліва адчуваем сваю адказнасць за інтэрнацыянальнае выхаванне з самых першых дзён далучэння чалавека да свядомага жыцця.

Пастанова ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння СССР», гэты глыбокі тэарэтычны і практычны дакумент на многія гады вызначае нашы задачы па інтэрнацыянальным выхаванні.

Радасць узаемаразумення, духоўнага ўзбагачэння, братняга таварыства і дружбы савецкіх людзей—вось крыніцы натхнення, якія жывяць творчасць кожнага з нас.

Беларускія пісьменнікі па-асобаму гэта перажылі ў дні Усесаюзнага тыдня дзіцячай кнігі, якая ў гэтым годзе выбрала сваёй сталіцай наш Мінск. Нашы сябры — пісьменнікі з братніх рэспублік, нашы госці — вучні, педагогі, выхавацелі, якія прыехалі ў Беларусь на «кніжчыны імяніны», з пачуццём радаснага хвалявання знаёміліся паміж сабой, з беларускай дзіцячай літаратурай і з пачуццём вялікай

рабочага. Як падкрэслівалася на XV з'ездзе прафсаюзаў СССР, цяпер сярод рабочага класа краіны, які за гады Савецкай улады павялічыўся ў шэсць разоў, больш дзвюх трэціх складаюць індустрыяльныя рабочыя. Значна вырас атрад рабочага класа і ў нашай прамысловай Беларусі. Аднак, у паказе росту і фарміравання класавай, грамадскай свядомасці ў новых умовах сацыяльна-эканамічнага жыцця беларускай літаратурай, кансалідуючая роля якой у фарміраванні грамадскай думкі агульнавядомая, зроблена да прыкрага мала... Дарэчы, аб гэтым даволі канкрэтна гаварылася на нядаўнім сходзе камуністаў-літаратараў, на якім была абмеркавана пастанова ЦК КПБ аб рабоце партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР. Гаварылася слушна, грунтоўна аб тым, што калі мы хочам быць на ўзроўні патрабаванняў часу, калі хочам ісці ў нагу з жыццём, калі, урэшце, не жадаем страціць вялікую чытацкую аўдыторыю рабочых, то павінны неадкладна ўзмацніць творчыя сувязі з сучаснай вытворчасцю, з яе людзьмі, павінны стаць бліжэй да Яго Вялікасці рабочага класа, да яго патрэб і задач. Ды час перайсці ўжо і да справы. Досыць чакаць таго моманту, калі, як пішуць некаторыя нашы крытыкі, «вялікая «гарадская» проза з'явіцца разам з прыходам у літаратуру таленавітых пісьменнікаў-гараджан» або спакойна назіраць, як яна «будзе ствараца па меры «урбанізацыі псіхалогіі літаратараў, якія выраслі ў вёсцы...». Ад такой пазіцыі патыхае звычайнай інертнасцю, а інертнасць ніколі не прыносіла карысці. Між тым, у 20—30-я гады савецкія пісьменнікі не чакалі, пакуль вырастуць «пісьменнікі-гараджане», яны горача адгукнуліся на патрэбы часу, на заклік партыі, стварылі нямала цудоўных кніг пра рабочы клас, ярка адлюстравалі маральнае, сацыяльнае абуджэнне чалавека, яго асабістае далучэнне да сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Дастаткова прыгадаць такія творы, як «Соть», «Время, вперед!», «Танкер «Дербент», «Цемент», «Люди из захолустья» і многія іншыя, што ўвайшлі ў залаты фонд савецкай літаратуры.

На сённяшнім этапе камуністычнага будаўніцтва перад літаратарамі стаяць не менш важныя і пачэсныя задачы ў святле гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Думаецца, што доля адказнасці за пралікі ў асвятленні тэмы рабочага класа ў нашай літаратуры ляжыць і на пісьменніках старэйшага пакалення. Каму, як не ім, жывым сведкам гістарычна-сацыяльных пераўтварэнняў у рэспубліцы, людзям з вялікім жыццёвым і творчым вопытам паказаць прыклад у напісанні твораў пра гераічны рабочы клас — так, як рабіў гэта Максім Горкі. А не захапіцца, не ўсхвалявацца сапраўднаму мастаку слова высакародным вобразам перадавога рабочага—проста немагчыма... Бо, як вельмі пранікнёна, дакладна і ярка сказаў на XV з'ездзе прафсаюзаў Л. І. Брэжнеў, «перадавы рабочы сёння — гэта чалавек, які валодае глыбокімі ведамі, шырокім культурным даляглядам, свядомымі і творчымі адносінамі да працы. Ён адчувае сябе гаспадаром вытворчасці, чалавекам, адказным за ўсё, што адбываецца ў нашым грамадстве. Такі рабочы палітычна актыўны, ён нецярпімы да расхлябанасці і безадказнасці, да любых недахопаў у арганізацыі вытворчасці. Ён непрымірымы вораг усялякага мяшчанства, любых перажыткаў мінулага ў свядомасці і паводзінах людзей».

Менавіта такі вобраз сучаснага прадстаўніка слаўнага рабочага класа павінен атрымаць пастаянную прапіску ў мастацкіх творах нашых пісьменнікаў. ⁞

ПІСЬМЕННІК І ЖЫЦЦЁ

# ТАЛЕНТ І СЭРЦА

Васіль ВІТКА

зацікаўленасці гаварылі аб многіх практычных справах.

Творчы сімпозіум, які адбыўся ў Мінску, быў прысвечаны ролі дзіцячай літаратуры ў інтэрнацыянальным выхаванні. У юбілейным годзе ўсе мы з асаблівай сілай адчулі глыбокае інтэрнацыянальнае значэнне самога свята дзіцячай кнігі, якое стала ўжо добрай традыцыяй нашага жыцця. Гэта адзіны ў годзе тыдзень, які не мае выхадных дзён. Але за сваю звышурочную працу мы, дзіцячыя пісьменнікі, узнагароджваемся такой радасцю сувязі са сваімі чытачамі, што творчай зарадкі хапае потым на многія месяцы і гады.

І ўсё ж, свята — святам. Хацелася б, каб усесаюзныя тыдні былі своеасаблівымі аглядамі дзіцячай літаратуры, і канкрэтна — аглядам дзіцячай літаратуры той рэспублікі, якая прыняла эстафету «кніжчыных імянін» на наступны год.

Каб, прыехаўшы на чарговы тыдзень, мы былі не толькі гасцямі, а і людзьмі, зацікаўленымі ў развіцці і дасягненнях дзіцячай літаратуры кожнага нашага братняга народа, каб усё лепшае, што з'яўляецца ў кожнага з нас, рабілася нашым агульным здабыткам.

Стварэнне вялікай літаратуры для дзяцей ужо немагчыма толькі намаганнямі адных пісьменнікаў, без вопыту савецкай педагогікі, без удзелу выхавацеляў, без сапраўды творчых школьных падручнікаў, якія абуджаюць жывую дапытлівую дзіцячую думку.

Таму нельга не парадавацца, што за складанне школьных дапаможнікаў узяліся і вопытныя літаратары. Аўтарамі прызнаных вельмі ўдалымі малдаўскага і беларускага буквароў з'яўляюцца пісьменнікі: Спірыдон Вангелі, Грыгарэ Віеру, Анатоль Клышка. Беларускі крытык Рыгор Шкраба напісаў падручнік па літаратуры для старшых класаў, беларуская паэтэса Эдзі Агняцвет разам з вопытнымі педагогамі — хрэстаматыю для трэцяга класа.

Зараз у святле высокіх ідэйных і эстэтычных патрабаванняў без прафесійнага ўдасканалення, без сістэмы перадавых педагагічных перакананняў, без асваення народнага вопыту выхавання нельга быць ні дзіцячым пісьменнікам, ні педагогам.

Педагогіка і літаратура — дзве родныя, неразлучныя сёстры. Толькі пры іх самай актыўнай садружнасці магчыма сапраўднае духоўнае і эстэтычнае выхаванне чалавечай асобы з першых дзён яе свядомасці.

У дзіцячай літаратуры нецярпіма саматужніцтва, аматарства і рукадзелле, якія, на жаль, часта яшчэ прымаюцца за творчасць. Ведаючы, што ў нас нечуваны попыт на кнігу для дзяцей і што кожная з іх расходзіцца ў першыя ж дні з'яўлення на кніжным прылаўку, мы суцяшаем сябе шкоднай ілюзіяй усеагульнага поспеху, у той час, як многія заведама бездапаможныя, прымітыўныя падробкі наносяць густам нашых дзяцей непапраўную шкоду. Вядомая пастанова ЦК КПСС аб дзіцячай літаратуры, прынятая тры гады назад, абавязвае нас быць нецярпімымі да падобнага літаратурнага саматужніцтва. Дзе-дзе, а ўжо ў дзіцячай літаратуры асабліва неабходная арганізатарская роля і жывая ініцыятыва. Не будзем забываць бясцэннага вопыту А. М. Горкага, які першы паказаў нам прыклад такой актыўнай арганізатарскай зацікаўленасці ў стварэнні літаратуры для дзяцей.

Для дзяцей трэба пісаць па закліку сумлення, па закліку душы, па закліку сапраўднай любві. «Сэрца аддаю дзецям», — так назваў сваю кнігу наш украінскі друг, выдатны савецкі педагог. Сёння гэтыя словы гучаць як запавет нам, таму што сам аўтар кнігі Васіль Аляксандравіч Сухамлінскі даказаў сваю любоў да дзяцей усім жыццём патрыёта, воіна, камуніста, вучонага і пісьменніка — усім жыццём да апошняй яго мінуты.

Я шчаслівы, што ведаў гэтага цудоўнага чалавека, супрацоўнічаў з ім. Сваю кнігу паэтычных навел і казак «Блакітныя жураўлі» Сухамлінскі прысвяціў беларускім сябрам. Упершыню яна выйшла ў нас, у Беларусі, выклікаўшы жывую цікавасць бацькоў, педагогаў і выхавацеляў.

Гаворачы пра Сухамлінскага, мы ставім яго прыкладам сапраўднага служэння дзецям. Гэта не толькі самая высакародная, а і самая адказная справа — служыць дзецям, аддаць ім усяго сябе, усе свае веды, талент і сэрца!

# АД КАМІТЭТА ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ БССР У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ

Камітэт па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР 1972 года дапушчаны наступныя кандыдатуры:

### У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ

1. **Бугаёў Д. Я.** Кнігі крытычных і літаратуразнаўчых работ: «Шматграннасць» і «Зброяй сатыры, зброяй праўды».

Прадстаўлены праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР.

2. **Бураўкін Г. М.** Кніга паэзіі «Жніво».

Прадстаўлена праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР.

3. **Бярозкін Р. С.** Кніга крытычных і літаратуразнаўчых работ «Постаці».

Прадстаўлена праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР.

4. **Грахоўскі С. І.** Кніга «Паэма дарог». Вершы і паэма.

Прадстаўлена праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР.

5. **Карпаў У. Б.** Раманы: «Нямігі крывавыя берагі», «За годам год», «Вясеннія ліўні», «Сотая маладосць».

Прадстаўлены праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР.

6. **Кірэенка К. Ц.** «Кніга ста песень». Вершы.

Прадстаўлена праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР.

7. **Лобан М. П.** Раманы «На парозе будучыні» і «Гарадок Устронь».

Прадстаўлены праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР.

8. **Навуменка І. Я.** Літаратуразнаўчыя кнігі: «Янка Купала. Духоўны воблік героя» і «Якуб Колас. Духоўны воблік героя».

Прадстаўлены кафедрамі беларускай і рускай літаратур Магілёўскага педагагічнага інстытута і Магілёўскім аддзяленнем СП БССР.

### У ГАЛІНЕ ЖУРНАЛІСТЫКІ

1. **Сіпакоў Янка.** Кніга нарысаў «Па зялёную маланку».

Прадстаўлена праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР.

2. **Ус А. П., Уладзімірава А. П.** Дакументальная аповесць «Вікторыя».

Прадстаўлена праўленнем Саюза журналістаў БССР.

### У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ

1. **Семяняка Ю. У.** Цыкл патрыятычных песень: «Беларусь—мая песня», «Расцвітай, Беларусь», «Ленінская праўда расцвітае», «Люблю цябе, Белая Русь», «Славім мы свой край любімы».

Прадстаўлены праўленнем Саюза кампазітараў БССР.

### У ГАЛІНЕ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА

1. **Кашкурэвіч А. М.** Серыя графічных лістоў «Партызаны» і серыя графічных лістоў па матывах твораў Янкі Купалы.

Прадстаўлена праўленнем Саюза мастакоў БССР.

### У ГАЛІНЕ ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА

1. **Матукоўскі М. Я.** — аўтар п'есы, **Кандрашоў Ц. А.** — рэжысёр, **Грыгар'янц А. Б.** — мастак, **Браварская З. І., Кармунін П. В.** —выканаўцы роляў. Спектакль «Амністыя» ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Прадстаўлена праўленнем Беларускага тэатральнага аб'яднання.

2. **Папоў І. С.** — рэжысёр. Пастаноўка спектакляў «Жыццё ўсяго адно», «Залатая карэта», «Першы грэх» у Гомельскім абласным драматычным тэатры.

Прадстаўлена Міністэрствам культуры БССР.

### У ГАЛІНЕ КІНЕМАТАГРАФІІ

1. **Губарэвіч К. Л.** — аўтар сцэнарыя, **Голуб Л. У.** — рэжысёр, **Масальскі Р. І.**—аператар. Мастацкі фільм «Паланез Агінскага» вытворчасці кінастудыі «Беларусьфільм».

Прадстаўлены Дзяржкамітэтам Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі і праўленнем Саюза кінематаграфістаў БССР.

### ЗА ТВОРЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

1. **Вітка Васіль (Крысько Ц. В.).** Кнігі: «Чытанка-маляванка», «Беларуская калыханка», «Казкі».

Прадстаўлены праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР.

2. **Маўр Янка (Фёдараў І. М.).** Сукупнасць твораў: «Чалавек ідзе», «У краіне райскай птушкі», «Амок», «Сын вады», «Палескія рабінзоны», «ТВТ», «Шлях з цемры».

Прадстаўлена Мінскай абласной дзіцячай бібліятэкай імя Янкі Маўра і супрацоўнікамі дзіцячых бібліятэк Мінскай вобласці.

3. **Якімовіч А. І.** Аповесці «Адкуль ліха на свеце», «Кастусь Каліноўскі», «Канец сервітуту».

Прадстаўлены праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР.

●

Адбіраючы работы для ўдзелу ў конкурсе, Камітэт, у адпаведнасці з палажэннем аб Дзяржаўных прэміях БССР, у некаторых выпадках унёс змены ў склад кандыдатур, прапанаваны арганізацыямі, якія іх вылучалі.

Для шырокага азнаямлення з работамі, вылучанымі на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР, Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні арганізуе цыкл перадач па радыё і тэлебачанні, а Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі — дэманстрацыю фільма «Паланез Агінскага» ў кінатэатрах рэспублікі. Праўленне Саюза мастакоў БССР наладзіць выстаўку твораў А. Кашкурэвіча.

Вялікай дапамогай Камітэту па Дзяржаўных прэміях БССР з'явіцца актыўнае абмеркаванне прадстаўленых работ савецкай грамадскасцю і органамі друку. Камітэт звяртаецца да творчых і грамадскіх арганізацый, устаноў культуры, навукова-даследчых інстытутаў, а таксама да рэдакцый газет і часопісаў з просьбай арганізаваць абмеркаванне работ, пакінутых для ўдзелу ў конкурсе, да 1 снежня г. г.

Водгукі аб кандыдатурах, матэрыялы грамадскіх абмеркаванняў прысылаць па адрасе: Мінск, вул. Акадэмічная, 15-а, БелСЭ, Камітэт па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

# ГРАМАДСКІ АГЛЯД БІБЛІЯТЭК

Калегія Міністэрства культуры БССР і прэзідыум Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры з ліпеня па снежань 1972 года праводзяць рэспубліканскі грамадскі агляд работы бібліятэк, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР.

Мэта агляду — павысіць ідэйна-палітычны ўзровень работы бібліятэк, іх ролю ў камуністычным будаўніцтве і выхаванні моладзі.

За час грамадскага агляду бібліятэкі абавязаны павысіць ідэйны ўзровень прапаганды кнігі і кіраўніцтва чытаннем; шырока карыстацца найбольш эфектыўнымі формамі і метадамі масавай і індывідуальнай работы сярод чытачоў; сістэматычна весці паглыбленую прапаганду рашэнняў XXIV з'езда КПСС, памагаць партыйным, савецкім і гаспадарчым органам у іх здзяйсненні.

Палажэнне аб грамадскім аглядзе бібліятэк прадугледжвае выкананне мерапрыемстваў Міністэрства культуры БССР па Міжнародным годзе кнігі.

Для кіраўніцтва грамадскім аглядам бібліятэк створаны рэспубліканскія, абласныя, гарадскія і раённыя аргкамітэты. Старшынёй аргкамітэта па правядзенні рэспубліканскага грамадскага агляду бібліятэк зацверджана начальнік упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР Ж. Сінельнікава, намеснікам — сакратар прэзідыума БРК прафсаюза работнікаў культуры Г. Кузьмінова.

У НАШАЙ РЭСПУБЛІЦЫ пачаліся Дні савецка-польскай культуры. дружбы і польскай

На прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, у навуковых установах Беларусі з дакладамі і гутаркамі аб развіцці эканомікі і культуры Польскай Народнай Рэспублікі, яе поспехах у сацыялістычным будаўніцтве выступаюць лектары таварыства «Веды».

Беларускія чытачы любяць і ведаюць польскую літаратуру. У рэспубліцы творы класікаў і сучасных пісьменнікаў Польшчы ў перакладах на рускую і беларускую мовы выдаваліся 39 разоў агульным тыражом 355 тысяч экземпляраў. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца кнігі Адама Міцкевіча, Баляслава Пруса, Яніны Бранеўскай, Уладзіслава Бранеўскага, Марыі Канапніцкай, Генрыка Сянкевіча і іншых аўтараў.

У гарадскіх і сельскіх бібліятэках праводзяцца канферэнцыі чытачоў па творах сучаснай польскай літаратуры, якая вырасла на прагрэсіўных і рэвалюцыйных традыцыях Міцкевіча і Ажэшкі, Някрасава і Горкага. Арганізуюцца выстаўкі кніг польскіх пісьменнікаў.

Гомельская абласная бібліятэка правяла тэматычны вечар «Нацыянальнае свята Польскай Народнай Рэспублікі», прысвечаны 28-годдзю вызвалення Польшчы. На вечары зроблены агляд новай польскай літаратуры, выступілі чытачы, якія пабывалі ў дружалюбнай нам сацыялістычнай краіне. Парадавалі ўдзельнікаў вечара вялікая кніжная выстаўка і музычная старонка «Мастацтва Польшчы».

Кніжная выстаўка «Польская Народная Рэспубліка — да 28-й гадавіны нацыянальнага адраджэння Польшчы» з вялікай цікавасцю ўспрынята наведвальнікамі Магілёўскай абласной бібліятэкі. Цяпер там рыхтуюцца вечар польскай паэзіі, а таксама кніжныя выстаўкі «Шлях барацьбы, стварэння і перамог польскага народа» і «Беларуска-польскія літаратурныя сувязі». Будзе праведзены адкрыты прагляд «Кнігі нашых сяброў», рыхтуюцца выстаўкі па матэрыялах газет і часопісаў «Польшча сёння» і «Мастацтва Польшчы».

Аматары блакітнага экрана ўбачаць польскія фільмы, якія будуць дэманстравацца ў час тэлевізійнага кінафестывалю. Адкрыецца фестываль цікавым захапляючым дакументальным фільмам «Вітаем вас».

Сябры з народнай Польшчы прыслалі ў Беларусь творы жывапісу, графікі, прыкладнога мастацтва, кнігі. У сталіцы рэспублікі, а таксама ў Маладзечна будуць дэманстравацца тры выстаўкі мастацкіх фатаграфій, прадстаўленыя варшавянамі. Выстаўкі жывапісу і графікі «Савецкі Саюз — вачыма польскіх мастакоў», вырабы прыкладнога мастацтва майстроў Польскай Народнай Рэспублікі прыслала на агляд мінчан галоўнае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы.

У кніжныя магазіны Мінска і іншых гарадоў рэспублікі паступаюць навінкі выдавецтваў Варшавы. Нядаўна вялікая партыя такіх кніг паступіла ў сталічны магазін «Дружба». У акруговым Доме афіцэраў наведвальнікі ўбачаць выстаўкі кніг выдавецтва міністэрства абароны Польшчы і польскага плаката.

БЕЛТА.

# «УЗБАГАЧАЕ ЗМЕСТАМ І ФОРМАЙ...»

Кніга, на вокладцы якой красуецца ўзор нашага народнага арнаменту, называецца сціпла — «Беларускія вершы». Але выхад гэтай кнігі ў Лодзі — падзея ў жыцці дзвюх краін-суседак: польскаму чытачу ўпершыню ў гісторыі нашых літаратурных узаемаадносін дадзена анталогія сучаснай беларускай паэзіі.




Ініцыятарам выдання з'яўляецца добры знаўца і актыўны прапагандыст нашай літаратуры ў Польскай Народнай Рэспубліцы паэт Ян Гушча — ён, як зазначана на тытульным лісце, анталогію «склаў, апрацаваў і прадмовай забяспечыў». Прадмова, дарэчы, вельмі ўдала ўводзіць польскага чытача ў праблематыку гісторыі і сучаснага стану беларускай літаратуры. Падкрэсліваючы традыцыйную блізкасць яе да літаратуры польскай, Ян Гушча адзначае дружбу лепшых прадстаўнікоў дзвюх братніх славянскіх культур, дружбу, якая прайшла праз стагоддзі.

Мэтай складальніка было паказаць як мага больш поўна і прадстаўніча нашу паэзію XX стагоддзя. Задача не з лёгкіх, і Я. Гушча з уласцівай яму сціпласцю прызнаецца ў прадмове, што анталогія не можа быць здавальняючай і з-за абмежаванасці ў аб'ёме, і з-за цяжкасцей у выбары таго ці іншага паэта, і з-за суб'ектыўнасці ў выбары твораў. Але, аддаючы належнае патрабавальнасці складальніка, скажам, што анталогія атрымалася па-сапраўднаму прадстаўнічай — у ёй пададзена творчасць 49 беларускіх паэтаў розных пакаленняў — ад Янкі Купалы і Максіма Багдановіча да Алены Руцкай і Людмілы Забалоцкай. Вершы перакладалі 30 паэтаў і перакладчыкаў.

Зразумела, Ян Гушча абапіраўся на выдадзеную ў нас трохтомную «Анталогію беларускай паэзіі», але ў яго свой пункт гледжання, і польскае выданне не паўтарае нашага ні ў падборы перакладзеных вершаў, ні ў выбары імён —ужо хоць бы таму, што за дзесяцігоддзе, якое прайшло паміж гэтымі анталогіямі, вырасла новае пакаленне паэтаў.

Разумеючы, што творчасць паэта не можа быць з дастатковай паўнатой ахарактарызавана адным-двума вершамі, Я. Гушча больш шырока падаў паэзію чатырох нашых аўтараў — Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Максіма Танка і Рыгора Барадуліна. Пра апошняга ён зазначае: «З той прычыны, што і ў нас «вясковая тэма» займае многа ўвагі, можна думаць, што ў паэме Барадуліна польскі чытач знойдзе нейкія паралелі да гэтай праблематыкі».

Ацэньваючы беларускую паэзію ўвогуле, складальнік прызнаецца, што «паэзія гэта ўзбагачае як зместам, так і формай», і таму ён хацеў «запэўніць самыя розныя перажыванні і ўзрушэнні, выяўленыя рознымі паэтычнымі сродкамі — гэта значыць ахарактарызаваць агульную карціну сучаснай беларускай паэзіі».

Можна смела сказаць, што складальніку многае ўдалося. Адзначаем гэта мы, адзначаюць і нашы польскія сябры. У рэцэнзіі на анталогію штотыднёвік «Култура» пісаў:

«Анталогія, на нашу думку, уяўляе сабой добрасумленна зроблены агляд беларускай паэзіі. Яна не засяроджваецца на творчасці некалькіх найбольш вядомых пісьменнікаў, такіх, як хоць бы Колас ці багата перакладзены ў Польшчы Максім Танк. Наадварот, яна прадстаўляе многіх паэтаў, паказваючы тым самым своеасаблівую разнастайнасць мастацкіх тэндэнцый, уласцівых іменна сучаснай беларускай паэзіі... Анталогія мае значную інфармацыйную вартасць. Яна пашырае далягляды ведаў польскага чытача, звяртае ўвагу на з'явы, якія ён даволі часта не ўсведамляў, ды, зрэшты, і не мог усведамляць з прычыны невялікай колькасці перакладаў з беларускай паэзіі. Пасля вайны ў польскім перакладзе з'явіліся толькі два томікі — Янкі Купалы і Максіма Танка».

А. ВАСІЛЕНКА.

Рыгор ШЫРМА

# ...І АД НІЎ БЕЛАРУСКІХ

СЁЛЕТА сусветная грамадскасць адзначала стагоддзе з дня смерці кампазітара Станіслава Манюшкі. У нас, беларусаў, да гэтага музыканта ёсць своеасаблівы сентымент. Бо не адна мелодыя, народжаная яго талентам, убірае ў сябе напевы нашага краю, народных спеваў нашых. Можна смела сказаць, што мы гартаем сёння творы С. Манюшкі з пачуццём удзячнасці і пашаны.

Беларуская зямля, пазначаная сотнямі рэк і азёраў, над якімі на высокіх прасторах узнімаюць гордыя вяршаліны дрымучыя бары і лясы, падшытыя дыванамі верасу і папараці, — гэтая зямля на працягу стагоддзяў была калыскай, адкуль не адзін вялікі паляк пачынаў сваё вандраванне па жыцці.

Тут, на нашай зямлі, малы засценак Марачоўшчына пад Косавам даў Польшчы славутага Тадэвуша Касцюшку, імя якога стала несмяротным сімвалам мужнасці польскага народа.

На Навагрудчыне расквітнеў паэтычны геній Адама Міцкевіча, найвялікшага польскага паэта—рамантыка, палымянага барацьбіта за свабоду свайго народа, за грамадскі прагрэс.

Прадстаўнікі рамантызму — як літаратары, так і музыканты — звярнуўшыся да народнай творчасці, узбагацілі мастацтва новымі тэмамі, ідэямі, фарбамі. Чачот, Зан, Адынец, а перад усім Міцкевіч поўнай жменяй чэрпалі са скарбніцы беларускай народнай паэзіі, якую добра ведалі, бо выхоўваліся ў беларускім асяроддзі. Сярод польскай моладзі ў Віленскім універсітэце беларускія песні карысталіся вялікай папулярнасцю. Захаваліся, напрыклад, звесткі аб тым, што любімай песняй Міцкевіча была беларуская «Ой, ляцела цяцера ды цераз лес».

З беларускай зямлёй цесна звязаны лёс Ул. Сыракомлі, Э. Ажэшкі, М. Карловіча.

Гісторыя захавала многа прыкладаў, якія сведчаць аб вялікай дружбе паміж славянскімі народамі. Адзін з іх — зблізэнне Міцкевіча з перадавымі рускімі літаратарамі, у прыватнасці—з А. Пушкіным.

# ХЛАПЕЧЫЯ ГУЛЬНІ



Войцех ЖУКРОЎСКІ

**Аўтар апавядання — вядомы польскі празаік — прымае ўдзел у Днях польска-савецкай дружбы і польскай культуры ў Беларусі.**

Хлапчукі сабраліся ля саду. Санлівая цішыня восеньскага адвячорка ўжо ахінула яго шызаватай смугой. Гулі восы. Яны прыпадалі да патрэсканых сліў, смакталі сок.

З саду цягнула церпкім водарам пераспелых груш. Але да іх цяжка было дабрацца. Дрэвы даводзілася трэсці, грушы, падаючы, біліся аб голле, і з іх бруіўся сок. Хапчукі прагна ўпісвалі іх, схіліўшы набок галовы, ласаваліся салодкім сокам.

Часам у разлеглай цішыні, якую толькі час ад часу парушалі дзікія качкі ў прыбярэжным сітоўі, чуўся нечаканы пляск. Гэта спелая груша, перамераўшы ўсю даўжыню пабеленага ствала, разбівалася на вытаптаным дзірване, ператвараючыся ў жменьку залацістай кашкі. Але гэты ласунак ужо даставаўся матылькам-жалобнікам...

А хлапчукам — сваё. Рыжы Вацак, сын садоўніка, сеў, падабраўшы ногі, і, мармычучы нешта пад нос, лушчыў падзяўбаны курамі круг сланечніка. Ад семачак яго пальцы і вусны былі фіялетавыя; Вацак дзіравіў цвіком дно бляшанкі, рыхтуючы на вечар кадзільніцу для Юркі. Грыцько, самы старэйшы, засунуўшы за надарваны рамень кароткую пугу, ляжаў у сухой траве — ён да млоснасці аб'еўся грушамі-падаліцамі і цяпер цяжка дыхаў, пазіраючы на воблакі.

Толюсь прыглядаўся да яго з бяздумнай і блазнаватай задуменнасцю. Падпёршы галаву далонямі, ён ляжаў на жываце і боўтаў босай нагой. Побач на кійку сохла вымытая сандалька: у гульні ён не заўважыў, як па костачкі залез у каровін блін.

Яго, найменшага, бралі гуляць толькі з ласкі, ашуквалі ў лічылках, прымушалі рабіць найгоршае. Звычайна ён першы жмурыўся, заўсёды быў жандарам, калі разбойнікі разбягаліся па кустах і хаваліся за каменнямі, чакаючы, пакуль пагоня не адыдзе далей.

— Іду-у-у шу-у-укаць! — крычаў ён, прыкладваючы далоні да вуснаў.

Ён разгублена азіраўся па баках... Яшчэ калыхаліся галінкі ракіты, яшчэ не аціх тупат задубелых пятак, а наўкола ўжо было пуста. Усе сталіся. У далечыню цягнуліся хвалістыя ўзгоркі, якія пераходзілі ў мокры луг. На ружовым небе цямнеў, нібы вежа, Астапкаў востраў.

Асцярожна, зігзагамі, ён пачаў пошук. Нечакана паміж кустоў і конскага шчаўя імкліва вывалілася ўся чародка. Захлынаючыся паветрам, яны імчаліся наперагон адзін аднаму, потым падалі на траву і доўга адлежваліся, супакойваючы шалёную калатню сэрца, а то раптам падавалі сябрам фальшывы сігнал і заходзіліся ад смеху, калі Толюсь іх застукваў.

Цяпер яны сядзелі і чакалі, які план ім прапануе Грыцько. Малы Юрка, сын праваслаўнага святара, наморшчыўшы лоб, выцягваў з пяткі стрэмку, выціраючы кроў лістамі падарожніка.

— Можа, згуляем, хлопцы, — азваўся, нарэшце, Грыцько.

— Замала нас, — фыркнуў Вацак, лускаючы семачкі.

— Я не магу бегаць, — уздыхнуў Юрка, — кульгаю...

— Ужо нарывае ці толькі баліць?

— Баліць, на нагу не ступлю...

— То надзень мае сандалі, — ахвяраваў Толюсь.

— Замалыя мне...

Але калі прымераў, то выявілася, што сандалі акурат.

— Ну, цяпер — іншая справа...

— Трэба мяч надзьмуць, — Грыцько павярнуўся на бок і выцягнуў з кішэні штаноў згнечаны німаток анучы.

Яны рушылі. Нарвалі сухой травы і пачалі набіваць ёю залапленую шкарпэтку. Футбольным полем у іх была пляцоўка на схіле ўзгорка, непадалёк ад падмуркаў закінутай будоўлі. Вароты абазначылі шапкамі.

У варотах паставілі Юрку, а Толюся Грыцько паставіў у правыя нападаючыя. За каменным падмуркам хаты, у круглаватым паглыбленні таілася студня, нядбала выкапаная і абшаляваная спарахнелымі дошкамі. У асеннюю слату пастухі іх павыдзіралі і спалілі. Дол чарнеў паміж кудламі аслізлай асенняй травы.

Грыцько свіснуў прарэзліва, аж залапаталі

**ДЫСКУСІІ**

*На парадку дня:*

**ПРАБЛЕМЫ ПАЭЗІІ**

Мікола АРОЧКА

# ПА РАХУНКУ ВЫСОКАЙ

З А КРУГЛЫМ сталом «ЛіМа» — зноў спрэчкі, сур'ёзнае абгаварэнне, праблем нашай літаратуры. На гэты раз — сфера тонкай, ідэальнай формы служэння слова — паэзія. Уражанне: быццам гэта працяг папярэдняй шырокай дыскусіі, якую не так даўно з добрым плёнам правяла наша крытыка. Праз увесь «Дыялог», якім распачата новая дыскусія, праходзіць найбольшым клопатам тая ж праблема, што стала, па сутнасці, асноўнай у літаратуры, — праблема высокай змястоўнасці, грамадзянскасці. Катэгорыя грамадзянскасці сёння пачала абдымаць і моцна трымаць у сваім прыцяжэнні мноства пытанняў тэорыі і практыкі мастацкага слова, прыроды таленту і творчай асобы, творчай пазіцыі. Адбыўся відавочны зрух у важкасці гэтай праблемы, якая, нібы планета, выплыўшы з паласы туманнасці, на вачах прыбывае ў масе і абумоўлівае рух іншых планет.

Дыялог В. Бечыка з А. Вярцінскім («ЛіМ», 23 чэрвеня г. г.) атрымаўся важкі, бадай, «асновапалагаючы», пазначаны сталасцю крытычнай думкі, погляду на патрэбы сённяшняй паэзіі. Праўда, чытаецца ён як цэласны артыкул — відаць, зашмат у ім узаемнай дапасаванасці, папярэдняй узгодненасці і здагадлівага ківання галавой. І чаго яшчэ не хапае гэтаму дыялогу — спраецыраванасці многіх зусім правільных палажэнняў на сённяшні літаратурны працэс.

Як вядома, мінулае дзесяцігоддзе, асабліва ў першай палове, не збаўляла, а яшчэ нарошчвала актывізацыю ўнутраных сіл многіх паэтаў, якія набылі нібыта сваё другое творчае дыханне — дыханне часу. Наша паэзія набрала такую якасна новую вышыню грамадзянскай і творчай культуры, што магла смела станавіцца ўпоравень з мастацкім плёнам суседзяў, з паэтычнымі дасягненнямі часу. На прасторах савецкай паэзіі на поўны рост узняліся постаці М. Танка і Э. Межэлайціса, П. Броўкі і М. Рыльскага, А. Куляшова і Р. Гамзатава, Л. Мартынава і П. Панчанкі, К. Кулiева і А. Пысіна.

А следам, наступаючы «на пяткі», напірала шумліва-неўтаймаваная генерацыя маладзейшых... Цікава, што якраз дзесяць гадоў назад, пад час вострай «лімаўскай» дыскусіі вельмі дарэчы з'явіліся з-пад пяра П. Панчанкі гарачыя радкі аб адзінстве, аб адной «заквасцы» двух творчых пакаленняў: «Гэта не двух пакаленняў сварка, гэта эпохі гарачая зварка». Моладзь, якая сягала ў глыбіню грамадзянскіх пачуццяў, і сапраўды ўбачыла, што ёй зусім па дарозе з тымі, хто быў здольны на якасна новае творчае абнаўленне, хто бескампрамісна і мужна загаварыў з сабой і з часам. «Мы з аднаго ваяўнічага цеста», —як бы ў жарт гаварыў Панчанка. Па ваяўнічай напорыстасці, па атакуюча-выкрывальным запале нашы маладзейшыя — Вярцінскі, Барадулін, Гілевіч — тады, бадай, не ўступалі гэткай жа баявітай кагорце сваіх равеснікаў, скажам, ва ўкраінскай паэзіі—В. Сіманенку, М. Вінграноўскаму, І. Драчу або ў літоўскай паэзіі—Ю. Марцынкявічусу, В. Шымкусу...

У найбольш яркіх постацей з гэтага, сёння ўжо творча сталага пакалення—каго б мы ні ўзялі: Вярцінскага, Еўтушэнку, Тэлеукэ — узнікла нямала граняў вельмі блізкага па сваёй прыродзе свячэння таленту — гэта няўтольная прага прыпасці мужнасцю свайго радка да самых набалелых праблем сучаснасці і да свайго грамадскага сумлення. Здзіўляе іх душэўная ранімасць, абвостраная ўспрымальнасць і рамантычна-страснае парыванне — адкрываць і аберагаць у чысціні сваё «высокае неба ідэалу».

Цяпер перавядзем наш позірк на самы пярэдні план паэтычнай панарамы—у сённяшні дзень паэзіі. Відаць, мае рацыю В. Бечык, калі кажа ў сваім падагульненні: «...Наша паэзія ў многіх выпадках здае грамадзянскія і творчыя пазіцыі. Рэдка трапляюцца творы, дзе знойдзеш новую тэму, убачыш новы зрэз жыццёвай праблемы, уразішся пранікліваму позірку ва ўнутраны свет сучасніка...»

Як ні горка вымаўляць такія словы, але пра тое, што сталася фактам, іначай не скажаш. Горка тым болей, што ў нашых суседзяў — у рускай, украінскай, літоўскай, латышскай, нарэшце, малдаўскай паэзіі—паэтычныя справы, трэба прызнаць, ідуць у апошнія гады куды лепш, чым у нас. Грамадзянская паэзія нашых суседзяў стараецца не здаваць сваіх пазіцый—яна інтэнсіўна шукае і абжывае новыя формы і шляхі грамадзянскага пранікнення ў жыццё. Вось два характэрныя загалоўкі палемічных артыкулаў аб творчасці М. Вінграноўскага на ўсю паласу «Литературной газеты» (29 сакавіка 1972 г.): «Збядненне палітры?..», «Не, узбагачэнне» — як бачыце, не аб спадзе гаворка, а пра ўзбагачэнне... (Міжволі прыкідваеш: хто з маіх равеснікаў-паэтаў «цягне» на арэну такой маштабнай гаворкі — Барадулін? Макаль?..). А вось у руках свежай фарбай пахне важкі том І. Драча «До джерел» — як непаўторна зайграла тут у глыбокіх пералівах сэнсу арыгінальна абжытая форма балад, алегарычна ёмістых, невычэрпна шматзначных... Не менш мяне ўразіла нядаўна апублікаваная ў «Дружбе народов» драматычная паэма «Міндаўгас» Ю. Марцынкявічуса, паэта магутнага эпічнага таленту, які ўмее нават у гістарычным палатне заставацца ў межах сілавога поля злабадзённых канфліктаў і праблем.

У народзе кажуць: трасі, як грушу, любі, як душу. Прашу зразумець маё крытычнае стаўленне да сённяшняй паэзіі. Гэта мне нічуць не перашкаджае добра ўсведамляць яе дасягненні. Калі прайсціся па-гаспадарску, ашчадна, не раскідаючыся, як кажуць, хлебам, то знойдуцца і ў нас добрыя прыклады, нават узоры высока-эстэтычнага служэння многіх шчодрых талентаў — любога пакалення. Не буду паўтараць свае ацэначныя погляды, выказаныя неаднойчы ў гадавых аглядах паэзіі, а таксама высокія, заслужаныя, на маю думку, ацэнкі, якія робіць А. Лойка ў сваім аглядным артыкуле «На грані звычайнага і незвычайнага» («Неман», № 4, 1972). Крытыка не магла не заўважыць і не сказаць шчырае слова пра асобныя таленавітыя вершы М. Танка, П. Панчанкі, А. Пысіна, С. Дзяргая, К. Кірэенкі, У. Караткевіча, Я. Сіпакова. Добра сустрэты і паэмы «Блакада» Р. Барадуліна, «Мацярык маленства» В. Макарэвіча, «Сяліба» В. Зуёнка, а таксама апошняя, на маю думку, найбольш значная з'ява двух паэтычных год, паэма А. Куляшова «Далёка да акіяна». Праўда, вакол гэтай паэмы нечакана загарэўся сыр-бор—я маю на ўвазе нядаўні «лімаўскі» артыкул Н. Кісліка «Аб некаторых зігзагах эпічнай красамоўнасці» («ЛіМ», 2 чэрвеня г. г.), палемічна накіраваны супраць аўтара паэтычнага гадавога агляду А. Лойкі. Калі чытаў, падумалася: і было б тут з чаго раздзьмухваць полымя? Але ж, бывае, загараецца бор ад адной мімаходзь неасцярожна кінутай запалкі. У аглядным артыкуле Лойкі куляшоўскай паэме ўдзелена ўвагі да крыўднага мала — усяго некалькі абзацаў. Было б смешна, калі б аўтар на такой «плошчы» думаў пра паўнату ацэнкі! Захоплены сваёй даўняй ідэяй — магчымасцямі стварэння сучаснага эпасу, а такія магчымасці ў савецкай паэзіі, бадай, ужо ёсць,—А. Лойка рашыў зірнуць на шырокае, шматпланавае палатно куляшоўскай паэмы толькі ў адным ракурсе: наколькі яна адпавядае класічным нормам сапраўднай эпічнай паэмы. Пад рукамі ў аўтара твора быў жа такі ўдзячны матэрыял з «невычэрпнымі магчымасцямі эпічнага асэнсавання...»! Шкадаванне крытыка перарасло ў пэўную недаацэнку твора — як паэмы не да канца рэалізаваных эпічных мажлівасцяў. Але сёння эпічны пачатак—хіба адзіная мера паэмы? Спрэчнасць такога падыходу відавочная, аднак Лойка мае рацыю ў адным пункце: рэалізацыя шырокай задумы А. Куляшову не скрозь удалася. Паэмная задума, структура, сюжэт, нават памер сутыкнуліся з цяжкасцямі пераадолення «супраціўлення» матэрыялу. Бурную хаду эпохі—у такім маштабным ахопе часу—відаць, нялёгка было асэнсаваць праз сюжэтна-псіхалагічны ўдзел галоўнага героя твора. Прыйшлося многія этапы гістарычнай памяці народа пераказваць бегла—для фону. Прыёмы мантажу, застаўкі, адступленні аказаліся не заўсёды ўнутрана злітыя з маналагічнай споведдзю асноўнага героя. І крытыка павінна ўдумна паставіцца да ўсяго гэтага, а не разводзіць уседаравальную апалогію, быццам многія пралікі і сур'ёзныя страты знанага паэта, бачыце, «больш цікавыя... за многія іншыя «дасягненні» сучаснай нашай паэзіі. Бясспрэчна, некаторыя думкі і «контрзакіды» Н. Кісліка можна прыняць, апрача аднаго—нявытрыманасці яго тону, нейкай зласлівасці, раздражнёнасці, якія так не пасуюць да сур'ёзнай гаворкі.

Гаворачы пра паасобныя творчыя ўдачы нашых паэтаў, мне, аднак, хацелася б у дыскусійным парадку пакласці на «круглы стол», магчыма, спрэчнае меркаванне. Мяне трывожыць вось што: за апошнія пяць год наша паэзія не пераўзышла ўзровень, дасягнуты раней — грамадзянскай лірыкай і нашай паэмай. Не з'явілася за гэты час ніводнай паэтычнай кніжкі, якая б па гучанні дацягвалася, скажам, да зборнікаў М. Танка «Мой хлеб надзённы», «Перапіска з зямлёй», да «Новай кнігі» А. Куляшова, да кнігі П. Панчанкі «Пры святле маланак»—гэтых сапраўды «кнігаў кніг нашых».

Мы ведаем, што новыя кнігі спеюць і пішуцца ў Панчанкі, Вярцінскага, Макаля, але каторы ўжо год як мы чакаем ад іх чарговага паэтычнага падрахунку! Апынуўся ў станеназапашвання, магчыма, і ўласнага перагляду Р. Барадулін. Шмат апошніх яго твораў пачалі не вытрымліваць павышанага крытэрыю патрабавальнасці. Дасціпна, скажам, назваць казу «малалітражнай каровай» або падмеціць, як за камароўскім прылаўкам дзяўчына на качарыжцы качана «цану вызначае хімічным алоўкам, нібы ў працвярэзніку нумар на пятцы». Але пасля таго, як пасмяешся з досціпу, мне заўсёды балюча было бачыць, як талент, абмінаючы важкае, набалелае, часам растрачвае сябе на дробязь, на каламбуры, забавы. Думаецца, што творчы вечар паэта, які адбыўся сёлета ў клубе Саюза пісьменнікаў, быў своеасаблівым падагульненнем першага этапу сталасці: каб ісці далей, паэту трэба ў нечым пераступіць праз сябе—у новую якасць...

Такім чынам, у абрысах нашай паэтычнай панарамы атрымалася не зусім суцяшальная карціна: гарызонт суседніх паэтычных краін аказаўся сёння значна вышэй нашага ўзроўню паэзіі, у выніку чаго яна часова як бы апынулася ва ўпадзіне. Я падкрэсліваю гэтае спадзяванне: часова. Каб спакойна, па-дзелавому разабрацца ў тым, што здарылся, патрэбна сур'ёзная, кваліфікаваная дапамога як з боку крытыкі, так і з боку вопыту нашых старэйшых майстроў слова.

Ужо самі нашы дыскусіі падказваюць, што выйсце да новых паэтычных шырот, бясспрэчна, — у павышэнні грамадзянскага тонусу нашай паэзіі, у пошуку новых формаў і шляхоў яе эстэтычна-змястоўнага служэння. Спрэчкі выяўляюць і іншае: відавочна, на шляху асэнсавання высокіх катэгорый грамадзянскасці і змястоўнасці паўсталі нейкія ўскладненні, суб'ектыўныя вытлумачэнні, а то і непаразуменні. Дужа шкодзяць, як мне здаецца, дзве няплённыя тэндэнцыі ў самім падыходзе да вызначэння катэгорыі грамадзянскасці. Адны настойваюць на звужэнні яе «параметраў»,

Васіль ЖУКОВІЧ

# У ЯКІ СВЕТ ЗАПРАШАЕШ, ПАЭЦЕ?

Сваё выступленне я не хацеў бы будаваць на аснове спрэчкі з другім аўтарам, аднак такая неабходнасць з'явілася пасля знаёмства з артыкулам Алеся Марціновіча «А праўда пачуцця?», змешчанага ў нумары «ЛіМа» за 23 чэрвеня. Праяўляючы той жа клопат аб якасці паэзіі, і ў прыватнасці маладой, аўтар артыкула, на мой погляд, часам не дацягваецца да сутнасці і спыняецца на неістотным. Такім неістотным, па-першае, мне здаецца яго разважанне аб узросце пісьменніка, аб тым, як уплывае на якасць твораў позні або ранні ягоны дэбют. Вось у які пункт гледжання пераходзіць гэтае разважанне: «...як сведчаць жыццёвыя прыклады, больш познія зборнікі часта з'яўляюцца сапраўднай падзеяй у літаратурным жыцці. Успомнім заўчасна памёршага паэта Сымона Блатуна. Ён дэбютаваў у серыі «Першая кніга паэта». І было аўтару ўжо за трыццаць. Друкаваўся ён тады шмат, у тым ліку і ў тоўстых часопісах, але кнігу не спяшаўся выдаваць. Затое цяпер, калі чытаеш яго два зборнікі (адзін пасмяротны), адчуваеш, што гэта сапраўдная паэзія».

Калі не рабіць абагульнення і не ўстанаўліваць нейкай заканамернасці, прыклады можна прадоўжыць. Скажам, кніга «Песня пра хлеб» А. Вярцінскага ўбачыла свет, калі яе аўтару было 32 гады. М. Купрэеў выдаў свой першы зборнік «Непазбежнасць» у 30 гадоў. Запозненым быў і дэбют Ул. Караткевіча. Але яго «Матчына душа», як і «Песня пра хлеб» А. Вярцінскага і «Непазбежнасць» М. Купрэева, стала добрай з'явай, падзеяй у беларускай паэзіі.

Усё гэта так, але ці трэба тут рабіць націск? Вось жа і іншыя прыклады: Р. Барадуліну, Я. Сіпакову, Г. Бураўкіну, Ул. Паўлаву ў час дэбюту, таксама ўдалага, было па 24 гады, а Ю. Голубу, Р. Семашкевічу і А. Разанаву і таго менш. Аднак гэта не перашкодзіла ім таксама паспяхова і таленавіта заявіць аб сабе ў літаратуры.

І, урэшце, яшчэ адзін факт. Выдавецтва «Беларусь» выпусціла ў свет у мінулым годзе зборнік вершаў М. Мінчанкі «Зялёны звон», а сёлета — кнігу Г. Казака «З любоўю к людзям». Абодва аўтары не могуць паскардзіцца на сваю маладосць, жыццёвую нявопытнасць. Аднаму з іх — пад трыццаць, другому — за трыццаць. Аднак сталасць узросту не дапамагла ім выдаць арыгінальныя і змястоўныя кнігі...

Хай мне даруе чытач, што я заняўся далёкай ад тэмы справай — падлікам... Я гэта раблю, каб падкрэсліць, што якраз не трэба капацца ва ўзростах паэтаў, паколькі сама паэзія не мае ўзросту. Справа, відаць, у творчай сталасці. Гаворка павінна ісці не **аб узросце паэта, а аб яго творчым росце або таптанні на месцы,** аб таленце і натхненні, аб патрэбе ва ўласнай споведзі, **аб асобе паэта, яго духоўным свеце.** Дарэчы, такія пытанні і ўзняты ў дыялогу. Вось словы А. Вярцінскага з гэтага дыялогу: «...Паэт павінен мець «лица не общее выраженье», адрозніваццa сваім светам. Магчыма, у першай кнізе гэты свет будзе яшчэ толькі праглядвацца, толькі акрэслівацца, але ён абавязкова будзе. Паэт без свайго свету — гэта пасол без сваёй дзяржавы».

Свет паэта... Багаты духоўны свет Уладзіміра Караткевіча ўбачылі мы ўжо ў яго першай кнізе «Матчына душа», у тых, напісаных ледзь не гекзаметрам, баладах, а таксама ў лірычных вершах, накшталт «У векавечнай бацькаўшчыне клёны...». І няхай сабе па-рознаму сустрэлі яго крытыкі (некаторыя лічылі паэта архаічным, несучасным), а ён ішоў далей, узнімаўся вышэй, каб праз нейкі інтэрвал паказаць яшчэ больш складаны і прыгожы свет «Маёй Іліяды».

У добры свет з чалавечым даверам і любоўю, з мажорным настроем і ўсмешкай адразу павёў нас Ніл Гілевіч «Песняй у дарогу».

Захапіў чытача сваёй кнігай «Маладзік над стэпам» Рыгор Барадулін. Тэма цаліны была тады ў паэзіі ў поўным сэнсе «цалiннай», і яе паэт узняў умела, па-майстэрску.

Нешта значнае праглядвалася ў кнізе Янкі Сіпакова «Сонечны дождж». Адчувалася, што ў аўтара першай кніжкі ёсць пра што расказаць, і ёсць тыя паэтычныя сродкі, якія могуць прыцягнуць увагу чытача. І вось сягоння ў нашым актыве — «Веча славянскіх балад».

Магчыма, малавата ў свой час было сказана пра першую кнігу Анатоля Вярцінскага «Песня пра хлеб», але за гэтай кніжкай ужо адчуваўся арыгінальны, таленавіты паэт.

# ЗМЯСТОЎНАСЦІ

другія—на бясконцым іх расшырэнні, адны чуюць яе пульс выключна ў публіцыстычнай страснасці, у адкрытых формах прамаўлення, другія гатовы ўключыць у яе сферу, бадай, усе паэтычныя жанры, у тым ліку і камерна-інтымную лірыку. Адсюль — «пагранічныя» канфлікты. Няйначай, канфлікты гэтыя маюць пад сабой рэальную глебу. Відаць, існуюць два розныя псіхалагічныя «полюсы» як у паэтычным, так і крытычным мысленні.

Успомнілася з гэтай нагоды рэцэнзія Г. Бураўкіна на выбраныя творы Н. Гілевіча («Полымя» № 10, 1969) —цікава, што ў вачах рэцэнзента найбольшую каштоўнасць набыла якраз гэтая якасць Гілевічавых вершаў — «адкрытая, ваяўнічая грамадзянскасць», якасць, дарэчы, вельмі блізкая творам і самога Бураўкіна. Мне таксама да спадобы гэтая якасць адкрытага страснага прамаўлення ў лепшых творах гэтых двух маіх равеснікаў. Але ж не трэба думаць, што гэта — адзіная і найвышэйшая каштоўнасць грамадзянскай паэзіі, што заглыбленне ў падтэкст, неадназначнасць намнога ўступаюць непасрэднаатакуючым формам, калі зло адкрыта называецца злом, дабро—дабром і г. д.

У дыскусійным артыкуле Ю. Свіркі («ЛіМ», 30 чэрвеня г. г.) таксама выступае супраць «вершаў-загадак, у якіх усё трымаецца на выбуховым падтэксце, на шматзначных намёках...» Шырмачкі і намёкі, вядома, не да твару сапраўднай паэзіі. Але ці варта зноў-такі браць пад абстрэл «выбуховасць падтэксту», мастацкую шматзначнасць? Калісьці вось гэтак жа і баечная алегорыя разглядалася не як эстэтычная катэгорыя, а спрошчана—як нейкая дымавая заслона ад празорлівых вачэй... А між тым прырода шматзначнасці—у прыродзе самога мастацкага вобразу, у якім тоіцца безліч слоўных і асацыятыўных сувязяў. «Кожнае мастацкае слова...—пісаў Л. Талстой,—тым і адрозніваецца ад немастацкага, што выклікае незлічонае мноства думак, уяўленняў і тлумачэнняў». Дык не адбірайма ў грамадзянскай паэзіі права на шырокі мастацкі падтэкст!

Наколькі невычэрпныя і ёмістыя могуць быць іншасказальныя формы сцвярджэння і адмаўлення, добра пацвердзіць творчая практыка М. Танка, У. Караткевіча, Я. Сіпакова, ды і самога Ю. Свіркі.

Звужэнне формаў, а таксама тэматыкі і праблематыкі — няплённае, недапушчальнае для грамадзянскай лірыкі. Мяне, шчыра кажучы, падзівіла ў тым жа артыкуле Ю. Свіркі нейкая павярхоўная бесклапотнасць адносін да нашай святыні — лесу, асабліва вось гэтая спроба — крытычна высмеяць нашы трывогі за лёс таго зялёнага дрэва, што сёння ўжо асацыіруецца з дрэвам жыцця. У сваіх вершах паэт сам умее чуйна слухаць душу прыроды, тонка перадаваць боль за яе («не пачуць нікому ў бары, калі ў пяску карэнне задыхнецца»), але вось ён—ужо ў ролі крытыка — нечакана бянтэжыць мяне утылітарнасцю падыходу: «спелыя дрэвы выразаюць для людскіх патрэб, а на месцы іх растуць пасаджаныя». Нібыта нашы паэты і сапраўды выступаюць за тое, каб спелае дрэва не пускаць на падлогі, цымбалы, калыскі. Як быццам Танк, Панчанка, Пысін, Русецкі, Макаль, Зуёнак па-мастацку не давялі перад гэтым, што адвечная тэма — прырода і чалавек, чалавек і лес — у наш час павярнулася з плоскасці традыцыйна-інтымнага, натурфіласофскага асэнсавання ў сферу надзвычай надзённай грамадзянскай заклапочанасці. Ужо цяпер заўтрашні дзень чалавецтва ўсё больш адкрыта ставіцца ў залежнасць ад таго, наколькі мы навучымся, нарэшце, шанаваць і паважаць усё жывое ў прыродзе, наколькі ўсвядомілі «раўнапраўе дрэў і людзей». Нядаўняе пагадненне на вышэйшым узроўні аб ахове акаляючага нас асяроддзя вельмі своечасова пацвярджае, што праблема прыроды, у тым ліку і лесу, набыла сусветныя маштабы.

Звернемся, аднак, да другой трактоўкі грамадзянскага служэння паэзіі. Мне ўжо прыходзілася выказваць трывогу з гэтай прычыны: ці не размываецца ўсё больш паняцце грамадзянскасці, калі яе сёння стараюцца пашырыць на ўсе жанры і формы лірыкі без выключэння? Або—сілком падцягваюць да гэтай эстэтычнай катэгорыі ўсё, што нават не пазначана высокім зместам?

Цытую А. Вярцінскага: «Ужо тое, што яна (паэзія; далей падкрэслена мной.—**М. А.**)—**якая б яна ні была** — не можа выяўляцца інакш як праз слова, праз мову, якія, як вядома, з'яўляюцца і прадуктам і сродкам грамадскіх сувязяў, — ужо гаворыць пра яе грамадскае значэнне». Гэта аргумент першы. Мова — сродак грамадскіх сувязяў, значыць, і **любы** верш, які б ён ні быў — з'ява грамадскага парадку. Аказваецца — усё проста! Калі ласка — ледзь не ўніверсальны крытэрый грамадзянскасці. Але тут дапушчана істотная падмена паняццяў: не ўсё грамадскае адэкватна грамадзянскаму. Паэзія з такой шырокай формулай — **якая б яна ні была** — ніколі не можа быць цалкам і заўсёды, у любых праяўленнях грамадзянскай па гучанні.

Аргумент другі: «Ды нават і той элементарны факт, што паэт чытае свой верш альбо друкуе яго, сведчыць аб тым, што паэзія заўсёды грамадская з'ява». Аксіёма, якая не патрабуе доказу, але вымагае пытання: хіба гэты прачытаны ці надрукаваны верш — заўсёды абавязкова грамадзянскі па сваёй сутнасці?

Можна зразумець гэта імкненне — перанесці «межавыя слупы» традыцыйных формаў грамадзянскасці чым далей у глыб лірыкі. Высокія крытэрыі маюць таксама сваё развіццё і рух у часе. Агульны працэс лірызацыі паэзіі ў бок шчырага даверу, душэўнай размовы захапіў у сваё рэчышча і грамадзянскія пачуцці, якія пачалі шукаць выйсце ў абноўленых формах асэнсавання. І ў гэтым рэчышчы штучныя застаўкі толькі шкодзілі б.

Але захапленне «ціхай» лірыкай, узгадаванай на ўзбочынах жыцця, пачало перарастаць у сваю крайнасць. У ход пайшла культывацыя ціхай «акруглай» паэзіі «залатых сноў», патрыярхальных ідылій, пазбаўленых выразнага сацыяльнага напаўнення. І вось, каб надаць усяму гэтаму нейкія правы «грамадзянства» ў паэзіі, пачалося дзіўнае падцягванне ўсіх «ціхіх» лірыкаў да ўзроўню высокай катэгорыі паэта-грамадзяніна.

На кішынёўскай нарадзе аб праблеме грамадзянскасці А. Лупан справядліва назваў такую з'яву ўцёкаў ад рэальнага жыцця «літаратурнай сімуляцыяй» (так, як у свой час У. Бранеўскі ахрысціў паэтаў, што баяцца сутыкнуцца з рэчаіснасцю, «дэзерцірамі жыцця»). «Гэта дэзерцірства пад агнём, пад святлом, што розумам завём», — аналагічны вывад зрабіў і А. Вярцінскі (верш «Перасцярога»). Шкада толькі, што вывады Вярцінскага-паэта і Вярцінскага-крытыка не заўсёды ўзгадняюцца (прынамсі, там, дзе ён не супраць таксама падцягнуць лірыку любога гатунку да вышыняў грамадскай значнасці).

Як жа мы яшчэ вяла і нясмела крытыкуем тых, хто і сапраўды, як кажа А. Лупан, не супраць уцячы ад апакаліптычных прывідаў у ціхую ідылію адцягненых слоўных карункаў альбо здацца на літасць абсурду. Цяжка зрабіць нават першы крок у праўду, лягчэй заплюшчыць вочы, каб не бачыць трагедый сучасных і трагедый магчымых у будучыні.

Не думаю, што трэба браць пад ахову і другое прыстанішча для літаратурнага сімулянцтва. Мы часта любім дэкламаваць: «я адказны за ўсё чалавецтва!», «усе кулі, што раняць іншых, трапляюць у маё сэрца». Але ж калі ў вершы такога пачуцця няма, не сцякае крывёю сэрца — гучныя словы становяцца псеўдаграмадзянскасцю, прафанацыяй сталай паэзіі.

Крайнасці, як бачым, сходзяцца. І наша паэзія можа іх шчодра пракаменціраваць прыкладамі любога гатунку. Вось характэрная любоўная рыторыка з уяўным драматызмам: «Я то люблю, то ў злосці ўсё крышу», «Я уцякаю ад свайго кахання, як ад спякоты уцякае ранне» (Р. Тармола) і з альбомнай варыяцыяй — у таго ж аўтара: «Нам ад дажджу не уцячы і ад свайго кахання», а то—з пастаральна-пейзажнай сентыментальнасцю: «Будуць зноўку звінець капяжы і вятры на праменнях іграць. Толькі ты, глядзі, не кажы пра сцяжынку на сенажаць» (А. Шаўня).

А колькі бляклa-беспачуццёвых копій знята з прыроды (бяру іх з «Дня паэзіі», 1972 г.): «Развеселая картина: лес угрюм и ярок, охмелевшая рябина не скрывает ягод» (Л. Ганчарова); «Пакажаш чыстую крыніцу, што пад бярозаю хаваеш, раскажаш быль ці небыліцу, услед галінкай паківаеш» (В. Законнікаў); «Тут вербы ніцыя і вольхі вясною кожнаю цвілі. Тут рэчка на світанні гаманіла жывым цымбальным спевам» (І. Калеснік); «Птушыныя не моўкнуць галасы ад сіняга золку, як сонца патушыць апошнюю зорку» (Я. Крупенька); «Вецер носіцца, як ашалелы, абрывае апошняе лісце. Працягнулі бярозы белыя долу тонкія кісці» (В. Шыханцоў); «Ды вабяць зноў дарожкі між сосен і дубоў, і нам з табой, Алёшка, зусім не да грыбоў» (В. Ярац).

А вось — ужо з другога «полюса» — тыповае дэкларацыйнае прамаўленне ісцін пры поўным раўнадушшы да іх (цытую па той жа крыніцы): «Любоў народа — вось узнагарода, адзіная з усіх пахвал-адзнак, якой сагрэты ў бурах і нягодах яго сумленны сын — паэт-мастак» (Н. Гілевіч).

Да спрэчкі аб мяжы паміж лірычнаінтымнымі вершамі і лірыкай грамадзянскага гучання хочацца дадаць адно: прыгледзьцеся ўважлівей, якая асоба стаіць за радкамі, які яе духоўна-маральны патэнцыял — і ўсё стане на месца! Відаць, якраз у значнасці творчай асобы тоіцца важнейшы крытэрый грамадзянскасці.



Так адкрываецца свята паэзіі ў нашых літоўскіх сяброў у Каўнасе...

Я не выпадкова назваў столькі першых кніжак. У кожнай з іх быў свой **непаўторны свет, за якім стаяла асоба** са своеасаблівым абліччам і голасам, са сваім непадобным на іншыя почыркам. Такога паэта хацелася чытаць, слухаць, хацелася ісці ў яго свет, бо відаць было, куды ідзеш, і была ўпэўненасць, што там не патраціш дарэмна час, а нешта знойдзеш, узбагаціш душу. І кожны з нас у тых вершах знаходзіў і часцінку самога сябе, бо жылі ў іх трывогі і радасці цэлага пакалення.

І вось у маіх руках — зборнік Генадзя Казака «С любовью к людям», які сёлета з'явіўся на кніжных паліцах. У першым жа вершы чытаю аб тым, што чалавеку Радзіма патрэбна «как ростком (?) удобренная (??) почва, а старухе (?) утренняя (???) почта...». Што гэта? Трэба быць зусім сляпым і глухім, каб не бачыць і не чуць, як гэта далёка ад паэзіі, як гэта страшэнна непрыгожа, бо выпадковымі словамі сказана аб самым дарагім! Вочы міжволі пабеглі за кароткай даведкай: рэдактар зборніка—У. Машкоў, на грамадскіх асновах адрэдагаваў яго П. Валкадаеў. І карціць спытаць у іх: дзе тут элементарны густ, дзе звычайная рэдактарская адказнасць? Ды не менш дзіўнага наперадзе...

Паэт «далікатна» расказвае аб тым, як «...листочки, встречая утренний рассвет, упрямо взламывают почки. И пробиваются на свет. И к солнцу тянутся спросонок». Дык як усё ж —лісточкі спалі ці «упрямо взламывали»? Відаць, у сутнасць радкоў не ўніклі дастаткова ні сам аўтар, ні рэдактары яго кнігі. Недакладнасць, лёгкаважкасць, урэшце і звычайная бессэнсоўнасць даволі часты госць у гэтай кнізе. Вось прыклады: «Отчий дом мне до капли знаком, только Родина больше и шире». Прымітыўна? Але. Яшчэ прыклады? Калі ласка... «А на последнем этаже ребята кроют крышу» — так сказана ў вершы «Кровельщики». Побач — захапленне лірычнага героя: «Брожу босой, сшибаю палкой груши. В крестьянской бане душу отвожу. И лайку тихо трогаю за уши». І тут жа, у вершы, раптам такое: «А если станет грустно от того, что дочь моя, как я, расправит крылья...» Досыць. Вось вам, з дазволу сказаць, лірычны герой, вось вам асоба паэта і яго свет. (І прыклады я прывёў не з самых горшых вершаў кнігі). У гэты свет, дзе пануе ненатуральнасць, фальш, разлад, мяне, чытача, і на вяроўцы больш не зацягнеш. Я толькі магу другім параіць, каб не спяшаліся туды трапіць. Але ці заўсёды паслухаюць: кніга ж выйшла пяцітысячным тыражом. І калі яна выдана аўтарытэтным выдавецтвам, дык паспрабуй дакажы, што тут нешта не так! З дэзарыентаваным чытачом размаўляць складана. У гэтай сувязі прыгадваецца нядаўняя размова з загадчыцай аднаго з дзіцячых садоў г. Брэста. У адказ на маю заўвагу адносна якасці падабраных ёю для ранішніка вершаў, яна здзіўлена сказала: «Што вы, гэта ж узята з кніжкі!» Вось якую часам шкоду прыносім мы, пускаючы ў свет пасрэдную, а то і проста нікчэмную кнігу, шкоду і чытачу, і аўтару...

І калі далей ужо гаварыць пра свет паэта, яго грамадзянскую пазіцыю, дык хочацца далучыцца і мне да тых, каго не прывабіў зборнік Міколы Мінчанкі — з яго конікамі дзеля конікаў, раўчукамі дзеля раўчукоў...

Было б яшчэ паўбяды, каб праблема асобы паэта, паэта з багатым духоўным светам, добрым густам, стаяла толькі ў першых кнігах. Яна часта застаецца і ў другіх і трэціх вершаваных зборніках. Яскравы доказ таму—зборнікі Хведара Чэрні, Мацвея Яцука, аб чым ужо гаварылася ў друку. Між іншым, гладкапіс і хуткапіс па сваёй прыродзе — актыўныя, наступальныя... Вось у чым складанасць (я працягваю спрэчку з Алесем Марціновічам), а не ў тым, што паэт у раннім узросце прэтэндуе на зборнік. Дарэчы, пэўная блытаніна назіраецца ў яго наконт «камунальных паслуг» і вясковага «светлага ранняў»... Адно другога не датычыцца і адно другому ніколькі не замінае.

Асабіста мне імпануе размова аб асобе паэта, аб яе ролі ў паэзіі, размова, якая своечасова ўзнята на старонках штотыднёвіка. Упэўнены, што яна прынясе карысць, сумленна паслужыць нашай агульнай літаратурнай справе.

Барыс БУР'ЯН

# РОЗДУМ АБ СУЧАСНІКУ

*РАМАН «СНЕЖНЫЯ ЗІМЫ» І. ШАМЯКІНА НА СЦЭНЕ БЕЛАРУСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА імя Я. КОЛАСА*



Яны — партызанскія пабрацімы. Таму і спрачаюцца без дыпламатыі. Як зараз. Народныя артысты БССР Ф. Шмакаў і А. Шэлег (у ролях Антанюка і Будыкі) так і іграюць гэты эпізод...

Фота С. КОХАНА.

Чатыры гады назад беларуская проза ўзбагацілася шматпланавым, па-грамадзянску ўсхваляваным творам Івана Шамякіна «Снежныя зімы». Як часта бывае, раман гэтага пісьменніка зацікавіў чытача, выклікаў жаданне разам з аўтарам і яго героямі абдумаць і наш сённяшні дзень, і тое мінулае, якое заўсёды застаецца з пакаленнямі людзей, што перажылі навалу вайны. Звернуты самым яркім промнем у сучаснасць, даючы гістарычную перспектыву перажытага народам, твор не мог застацца па-за ўвагай «суседніх» відаў мастацтва: гэта тая проза, дзе востры драматызм падзей і шмат у чым характэрныя персанажы жывяць думку і сцэны (тое, што раман інсцэніруюць адразу тры тэатры рэспублікі, сведчыць аб гэтым дастаткова пераканаўча), і тэлебачання (тут таксама ёсць падставы чакаць прэм'еры на «блакітным экране»), і, магчыма, кінематографа, ды і музычнага тэатра.

Першае сцэнічнае ўвасабленне «Снежным зімам» даў калектыў коласаўцаў. Ёсць у гэтым факце адна заканамернасць, не сказаць пра якую нельга. Тэатр даўно і паслядоўна, кіруючыся гаспадарскім клопатам аб арыгінальным рэпертуары, фарміруе афішу і са спецыяльна для коласаўцаў напісаных п'ес, і з «перакладаў» на мову сцэны яркіх празаічных твораў беларускіх пісьменнікаў. Мабыць, дастаткова прыгадаць хоць бы спектаклі «Навальніца будзе» паводле трылогіі Якуба Коласа, «Крыніцы» і «Сэрца на далоні» І. Шамякіна, «Вайну пад стрэхамі» А. Адамовіча, «Бацькаўшчыну» К. Чорнага. Назапашаны багаты вопыт, ён тым больш каштоўны і павучальны, што інсцэнізацыя прозы наогул цяпер заваявала роўныя правы з арыгінальнай п'есай.

**Спектакль «Снежныя зімы», вядома, дадае да гэтага вопыту нешта істотна новае, я сказаў бы, прынцыпова новае. Зразумела, лягчэй за ўсё паўтарыць вядомую ўжо ісціну аб тым, што ніякая інсцэніроўка не можа ахапіць даляглядаў і глыбіні буйнога празаічнага твора. І тая п'еса, якую напісалі паводле рамана «Снежныя зімы» загадчык літаратурнай часткі тэатра імя Я. Коласа Ул. Ганчароў і сам І. Шамякін, у сцэнічнай рэдакцыі, што была распрацавана галоўным рэжысёрам тэатра С. Казіміроўскім, — гэта толькі адна з магчымых тэатральных версій твора.**

Першая асаблівасць пастаноўкі — яе публіцыстычны напал. І сам метад інсцэнізацыі, калі драма «чытаецца» тэатрам як маналог-успаміны галоўнага героя Івана Антанюка, спрыяе мастацкаму асэнсаванню таго, што адчувае, думае і гаворыць (часта звяртаючыся непасрэдна ў залу, да нас, гледачоў) ён, чалавек, якому аддадзена асноўная ўвага, да якога, як да эпіцэнтра, скіраваны эмацыянальныя і інтэлектуальныя токі ўсіх дзейных асоб.

Рэжысёр С. Казіміроўскі і выканаўца ролі Антанюка Ф. Шмакаў так будуюць і так іграюць кароткі пралог да спектакля, што зала адразу адчувае права героя на шчырую споведзь, на адкрытую размову і з самім сабой, і з глядзельнай залай.

— У лесе заўсёды хораша думаецца, — гучыць са сцэны, уся прастора якой як бы разгорнута ў панараму ўмоўнага, але і дакладнага па дэталях месца дзеяння. — Лес разганяе трывогу. Самыя вялікія непрыемнасці, якія яшчэ ўчора здаваліся трагічнымі, пасля такой вось прагулкі па лесе і развагі пад шум дрэў, робяцца дробязнымі, не вартымі сур'ёзных перажыванняў...

Ёсць у голасе, ва ўсёй постаці Антанюка—Шмакава штосьці жывое і ўнутрана значнае, калі ён пачынае гэтую споведзь. Артыст перадае не толькі тэкст, непасрэдны змест слоў, ён дае адчуць нам, што словы аб «трагічных непрыемнасцях» — не тыя, ад якіх лёгка адмахнуцца, хай сабе і ў лесе, пад шум дрэў, што наперадзе яшчэ мы не раз; настройваючы сябе на «Антанюкову хвалю», успрымем жывы і хвалюючы напал драматызму і падзей, пра якія пойдзе гаворка, і чалавечых узаемаадносін.

Другая асаблівасць спектакля вынікае з першай. Ён і сапраўды часам глядзіцца як «монадрама», як мастацкі разрэз біяграфіі і лёсу аднаго чалавека. Тэатр свядома абраў такую форму перадачы панараманнаму шырокага агляду жыцця м н о г і х праз тое, як гэты «агляд» працінае чалавечую адзінку.

Жывы ў кожнай праяве свайго «я», свайго яснага характару, сцэнічны вобраз Антанюка ўбірае ў сябе запаветныя рысы часу. Тэатр не ідэалізуе Івана Васільевіча, былога партызанскага важака, партыйнага работніка, салдата партыі: тое, чаго ад яго патрабавалі абавязак і сумленне, ён выконваў з верай і самаахвярнасцю, а калі памыляўся, то не хаваўся ад адказнасці і не даваў сабе палёгкі.

**Амаль няўлоўнымі штрыхамі і нюансамі Ф. Шмакаў нясе яшчэ адну ноту, якая не аціхае ў душы героя. Не выпадкова Антанюк аграном — па прафесіі і па жыццёвым прызванні. Сын зямлі, ён даражыць яе хараством, а ў хараства — людзьмі. Артысту важна тое, што роля дае яму магчымасць паказаць героя жывым, не «ад схемы» чалавекам. Таму Антанюк Ф. Шмакава так непасрэдна і па-творчы адчувае рэальнасць на ўсіх скрыжаваннях жыццёвага шляху. Дарэчы, многія эпізоды спектакля так і ўспрымаюцца — чалавек, сустрэўшы кагосьці або прыгадаўшы штосьці, як бы затрымаўся на скрыжаванні, узважвае, дзейнічае.**

Як і ў пачатку-пралогу, рэжысёр у фінале выводзіць Антанюка на авансцэну: зноў — на гэты раз у пошуме жытнёвых каласоў — герой абдумвае перажытае ім. А навокал — хлеб, хлеб...

(Мабыць, Антанюк у такі момант прыгадаў бы адзін верш, і, не пагадзіўшыся з першымі яго радкамі: «Забыта многае ў жыцці, з дарогі змецена і змыта», — прамовіў бы як запаветнае: «Мне ў жыта хочацца ўвайсці, мне вечнасцю здаецца жыта... Тут даспявае пад смугой зліццё надзей, жаданняў сумесь...»).

— Пакуль жыву, буду шумець, — з прасветлена-лірычным і ў чымсьці нібы «на новым этапе» сталым роздумам вымаўляе шмакаўскі герой. — Буду і памыляцца, бо не памыляюцца толькі абывацелі і мерцвякі. А я — жыву! Можна вінаваціць мяне шмат за што, але не за тое, што было галоўнай лініяй майго жыцця, што павінна быць галоўнай лініяй жыцця кожнага чалавека...

Максімалізм? Што ж, такі ўжо ён чалавек, Антанюк — чалавек для людзей! (І зноў жа, гартаючы вершы А. Пысіна, ён, мабыць, аднёс бы да сябе радкі: «Мой сцяг вышэй усіх няўдач, вышэй усіх няпраўд. Я сам загорнуты ў кумач ад галавы да пят...»).

Калі хочаце, тэатр тут скарыстоўвае сцэну як трыбуну, дае публіцыстычную выснову ўсяму, што было паказана нам у спектаклі. Гэта — мараль сцэнічнага твора, заклік, зварот да гледачоў. А жыццё перад намі прайшло сапраўды драматычнае, здольнае забраць у палон, узрушыць, абудзіць роздум, актыўны эмацыянальны «адказ» на мастацкі твор.

**«Пераклад» шамякінскай прозы зроблены па законах драмы. Спектакль драматычны, канфліктны. Антанюк сутыкаецца не толькі з адкрытым ворагам, з фашызмам; для яго маральным праціўнікам робіцца і баявы паплечнік, калі такі чалавек здраджвае высокім ідэалам. Мабыць, найбольш ярка гэта праяўляецца ва ўзаемаадносінах Антанюка з Валянцінам Будыкам. Па-акцёрску тонка, з псіхалагічнай праўдай нават у нюансах Ф. Шмакаў іграе ролю тады, калі яго герой вельмі востра (а для самога Антанюка — унутрана балюча!) адчувае ў былым начальніку штаба партызанскага злучэння, а цяпер дырэктары навукова-даследчага інстытута Будыку «перамены» дзіўныя, незразумелыя. Антанюк жа не такі, каб даравадь «дзіўныя» ўчынкі і пакідаць нешта «незразумелым» у прыстасаванцы ад навукі. Не, ён не змірыцца з тым, што яго колішні паплечнік цяпер зневажае годнасць і прыніжае грамадзянскую сутнасць савецкага характару.**

Паспрабуйце сказаць гэта вы таму Будыку, якога такім «паважным», з ветлівай усмешкай на вуснах, з упэўненасцю ў самім сабе паказвае А. Шэлег! Ён не толькі абурыцца, ён і пасмяецца з вас. Але перад ім — Антанюк.

Здаецца, нічога ўжо не трэба Будыку, акрамя высокай урадавай прэміі. І ён атрымаў бы яе — ва ўсякім разе А. Шэлег іграе так, што на сцэне прадстае гэткі прэтэндэнт на любыя ўзнагароды і падзякі, які «выпрацаваў» у сабе непахісную ўпэўненасць, што яны яму «ўжо» належаць, калі ён — Будыка! А на гэты раз — тым больш: прэмія ў яго, як гаворыцца, «у кішэні». Ды і Антанюк не дужа вялікі знаўца ў машынабудаванні... Аграном. Улагодзіць яго і... І ўзнікае паядынак. Будыка яго не хоча; яму ніякай карысці ад спрэчкі з Антанюком. Ах, якая ліслівая і дзяжурна «прыяцельская» ўсмешка асвятляе твар шэлегаўскага персанажа! Будыка па-свойму паважае «празмерна», на яго думку, сумленнага, трошкі нават цнатлівага «дзівака» (у рамане ёсць словы — «прынцыповы ідэаліст») Антанюка. Ды толькі маральны канфлікт набірае разгон, робіцца небяспечна-гарачым, і тады (зноў жа А. Шэлег па-акцёрску апраўдана іграе ўнутраны выбух Будыкі) доктар навук не стрымліваецца. Перад пагрозай канчатковага «выкрыцця» ён кідае абразлівыя словы: «Чаго мне не хапае — твайму прымітыўнаму розуму непасільная задача. Прэмія трэба не аднаму мне! Калектыву...» Не, пра «калектыў» і пра інтарэсы людзей, відаць, Антанюку тлумачэнні даваць і не варта: гэта ў яго крыві. Тады — новы выбух Будыкі: «Даволі з мяне тваёй ханжаскай маралі!..» Як і ў рамане, ён выглядае (парадокс!) амаль «манументальна прыгожым», доктар навук Валянцін Будыка.

І тут рэжысёр на «дзень сённяшні» дае па-мастацку абгрунтаваную праекцыю «мінулага»: як былы камбрыг, Антанюк камандуе — «Смірна!..» Праўда, пакуль што гэты момант (магчыма, адзіны ў сцэнічных паводзінах Ф. Шмакава) іграецца празмерна «ў лоб», з разлікам на «рэакцыю» гледача, які, зразумела, засмяецца, калі Будыка прыме стойку «смірна». І ўсё ж па-свойму высакародна гучыць гэты, хай сабе ў мірных умовах і наіўны заклік да прыстасаванца-абывацеля: маўляў, вярніся ты ў сваё баявое і па-юнацку чыстае мінулае, узваж цяперашнія ўчынкі і намеры сэрцам, а каб лягчэй табе гэта было зрабіць, выконвай знаёмую каманду: «Смірна!» І ўжо не так Будыку, як і нам, у залу, кідае па-публіцыстычнаму адкрыты тэкст шмакаўскі Антанюк, успамінаючы пабрацімаў, якія загінуў у баі:

— Ён ляжыць у зямлі, каб ты рабіў трагедыю з таго, што табе не далі яшчэ адной прэміі, яшчэ аднаго ордэна!..

**Памяць сэрца... Яна прыціхла і «маўчыць» у Будыку, яна кіруе думкамі і настроямі Антанюка. Вобразна гэта на сцэне часам ілюструецца амаль літаральна — з'яўляюцца наплывы з «ваеннай пары», хтосьці з дзейных асоб нагадвае, якімі яны ўсе былі тады, калі партызанілі. Магчыма, некаторыя з умоўна - сцэнічных, выконваемых, дарэчы, нават эфектна, літаратурна - рэжысёрскіх «наплываў» (а на іх будуецца і раман) на сцэне і не абавязковыя. Бо з сутнасці і тэмпераменту канфлікту паміж Антанюком і Будыкам (ён іграецца Ф. Шмакавым і А. Шэлегам кідка, ёміста, і гэта робіць дастаткова яркае ўражанне) для большасці гледачоў «і так усё зразумела».**

Наогул спектакль выглядае расцягнутым, асабліва ў першай частцы. Аўтары інсцэніроўкі, відаць, як гэта звычайна бывае з людзьмі, якія пішуць для тэатра, былі залішне падрабязнымі, баючыся, што хтосьці з тых, хто не чытаў раман, не зразумее прычын і матываў некаторых паводзін дзейных асоб. Сярод амаль дваццаці персанажаў інсцэніроўкі, бадай, больш за іншых пашанцавала Валянціну Адамавічу Будыку: яго роля дае магчымасць артысту «сыграць лёс», а не толькі даць пэўную даведку-ілюстрацыю адносна Антанюка, яго сяброў і яго праціўнікаў.

**Помніцца, адзін крытык (даўно гэта было!), адзначаючы па-рэжысёрску і па-акцёрску старанна «сцэментаваны» ансамбль спектакля паводле рамана «Мадам Бавары», сказаў і такое: «Ды толькі ці не празмерна другараднымі выглядаюць усе астатнія персанажы пастаноўкі?» А гаворка вялася пра спектакль А. Таірава ў Камерным... Калі глядзіш «Снежныя зімы» ў коласаўцаў і чытаеш інсцэніроўку, адчуваеш жаданне паўтарыць гэта — ці не залішне другараднымі атрымаліся ўсе астатнія персанажы? А іх жа многа, і некаторыя з іх праходзяць амаль праз увесь спектакль, яны перажываюць свае трагедыі і свае радасці.**

Яшчэ раз скажу, што п'еса і спектакль так і задуманы — маналог героя, «падключэнне» да яго эпізодаў з «сёння», «наплывы» эпізодаў часоў вайны. Таму пэўная мазаічнасць тут была непазбежная. І дзякуй трэба сказаць тэатру за тое, што многія з так званых «занадта другарадных» персанажаў нясуць сваю тэму (узаемаадносіны «бацькоў» і «дзяцей», сумленнае служэнне высокім ідэалам і пакар'ерысцку зразуметы «дух часу», неспакойная памяць сэрца і сардэчная глухата і г. д.), у межах тэксту і маштабу эпізоду раскрываюць характар і нават даюць магчымасць «далучыцца» нам да лёсу чалавека.

Колькасць выхадаў на сцэну артысткі Г. Бальчэўскай можна, як кажуць, пералічыць па пальцах. А яе Віталія, дзяўчына ўнутрана насцярожаная, так прыслухоўваецца да сябе і да таго, што адбываецца навокал, так патрабавальна шукае сваёй праўды і свайго месца ў жыцці, што не верыць у гэты характар — нельга. Як і Антанюк, яна — цэльны характар. Як і Антанюк, яна не пойдзе на кампраміс. І яна, мабыць, не менш мужна сустрэне абвінавачанне ў «ханжаскай маралі», калі толькі хтосьці па-будыкаўску абразіць яе «ўнутраны кодэкс».

Яшчэ менш «выхадаў» на сцэну ў артыста Ул. Куляшова, які іграе ролю адказнага па пасадзе кіраўніка (яго завуць Іванам Іванавічам), ад якога залежыць лёс і Антанюка, і тых, каго можна лічыць надзейным саюзнікам Антанюка і яго маральных прынцыпаў. Хоць знешне гэта зусім прыстойны і нават падкрэслена ўважлівы, ветлівы адміністратар, Ул. Куляшоў усімі акцёрскімі фарбамі вядзе нас да таго, што і мы пачынаем бачыць сапраўднае аблічча Івана Іванавіча, дэмагога і перастрахоўшчыка. Побач з такім персанажам яшчэ ярчэй адцяняецца мужная бескампраміснасць Антанюкоў, іх сапраўднае хараство, іх партыйныя па духу адносіны да жыцця. Па-мастацку Іван Іванавіч выкрыты на сцэне артыстам вельмі пераканаўча.

А маці загінуўшых братоў-партызан Марына Казюра! А стары

калгаснік, які так маляўніча «ўваходзіць» у калейдаскоп эпізадычных дзейных асоб! Артыстам Л. Пісаравай і І. Матусевічу апладзіруе зала, і гэта не выпадкова, бо і яны з «празмерна другарадных» роляў здабываюць жыццёвую праўду і падаюць яе па-тэатральнаму выразна, сакавіта, пераканаўча.

**Па рэцэнзенцкаму штампу я мог бы папрасіць прабачэння ў тых, каго мушу называць «па спісе». Але не сказаць, што сапраўды артыстычныя работы паказалі Т. Мархель (жонка Антанюка), Г. Маркіна (Надзея Пятроўна), Т. Кокштыс (інтрыган Эдуард Кляпнёў), М. Цішачкін (камісар атрада Шугановіч), Я. Шыпіла (палонны), было б недаравальна нават вельмі абмежаванаму памерам артыкула рэцэнзенту. Гэтыя выканаўцы адчуваюць эпізадычнасць сваіх персанажаў, але карыстаюцца вельмі выразным светаценем, каб у гісторыі Антанюка не было чалавека, які б «прайшоў мімаходзь» у лёсе героя.**

Сустракаючы розных людзей, кожны з якіх то падтрымлівае ў нечым яго, то выступае са сваёй жыццёвай філасофіяй і тым спрачаецца з ім, шмакаўскі герой ярчэй за ўсё раскрывае характар і светапогляд у сутычках з негатыўнымі з'явамі. І на першы план спектакля, а гэтага вымагае прырода драматычнага мастацтва, выступае не так званы «мікшыраваны» (штучна прыглушаны) канфлікт, а непрымірымая барацьба паміж носьбітамі неаднолькавых маральных прынцыпаў. Рэжысёр С. Казіміроўскі так ставіць інсцэніроўку, а выканаўца галоўнай ролі Ф. Шмакаў так іграе яе, што глядач непасрэдна адчувае: тэатр, не балансуючы колькасць станоўчых і адмоўных персанажаў і іх выказванняў, усім пафасам твора супрацьстаўляе негатыўным з'явам і памылковым поглядам сваю выразную ідэйную пазіцыю. Гэта — сапраўды па-сцэнічнаму; гэта — сапраўдная драма!

Спектакль складаны. Вынаходлівасць рэжысуры (С. Казіміроўскі працаваў у супрацоўніцтве з дыпламантам Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута А. Нісневічам) праяўляецца і ва ўсёй творчай арганізацыі відовішча. Мастак А. Салаўёў сваімі праекцыямі на тры сцэны-экраны, дакладна знойдзенымі мастацкімі дэталямі на сцэнічнай пляцоўцы і зменамі агульнай каляровай гамы стварыў арганічна сугучную твору дэкаратыўную палітру спектакля. Не «падвёрстваў» да сцэнічных эпізодаў і да старонак рамана, а шукаў музычнага эквіваленту ў перадачы таго, што вось зараз «узрушае душу» галоўнага героя «Снежных зім», кампазітар Г. Вагнер. Яго фрагменты ўспрымаюцца як часткі самастойнага сімфанічнага твора. Гэта той шчаслівы выпадак, калі музыка выступае раўнапраўным сааўтарам тэатральнай дзеі і яе філасофскага зместу.

**Так, беларуская сцэна дала гледачам яшчэ адзін патрыятычны твор, які не толькі захапляе, прыцягвае ўвагу сюжэтам і акрэсленым характарам сапраўднага героя нашага часу, а і вучыць на прыкладзе нядаўняга мінулага берагчы, як зрэнку вока, гонар савецкага чалавека. Мабыць, многія з тых, каму адрасаваны спектакль, пакідаючы тэатр, возьмуць з сабой па-новаму асэнсаваны і сагрэты Антанюковым сэрцам заклік героя: «Дзеці павінны выхоўвацца не толькі на нашых гераічных справах, але і на памылках мінулага, каб не паўтараць іх...» Судзіць жа сябе можна і варта так, як гэта робіць камуніст Іван Антанюк.**

ДВОЙЧЫ коласаўцы паказалі «Снежныя зімы» грамадскасці. Спектаклю наканавана доўгае сцэнічнае жыццё. З цягам часу ён набудзе яшчэ больш адчувальную цэласнасць і завершанасць ва ўсіх кампанентах тэатральнага відовішча. Калектыў гэта ведае. Калектыў да гэтага імкнецца.

А. ГАНТМАН

# КАЛІ ЎЗЯТЫ РАЗГОН...

*ПРАЗ ПАЎТАРА ГОДА ПАСЛЯ АДКРЫЦЦЯ ТЭАТРА МУЗКАМЕДЫІ БССР*

ПАСЛЯ ТАГО, ЯК Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР увогуле «аформіўся», калі грамадскасць адчула пэўныя тэндэнцыі развіцця і пэўныя характэрныя недахопы, задаеш пытанне: як да працы тэатра ставіцца глядач, ці задаволены ён сённяшнім творчым плёнам калектыву?

Я ў дадзеным выпадку — глядач. Скажу шчыра: спектаклі мяне парадавалі. Спадабаўся вядучы склад артыстаў.

У аперэтачным тэатры, як і ў тэатры іншых жанраў, самая каштоўная якасць — майстэрства і добры густ акцёраў. Зразумела, яшчэ не ўсе артысты і музыканты адпавядаюць патрабаванням сталічнага тэатра. Аднак, ужо цяперашні ансамбль падкупляе сваёй маладосцю, адухоўленасцю, культурай сцэнічных паводзін. У некаторых тэатрах артысты размаўляюць на сцэне не так, як у жыцці, і не па «законах» драматычнай сцэны, а «па-аперэтачнаму» — з прыкрымі штампамі, вульгарна падкрэсліваючы «смешнае» або «трагічнае». У гэтым тэатры такія недахопы ўласцівыя нямногім артыстам. На добрай вышыні афарміцельская культура спектакляў. З самага пачатку, як мне здаецца, вызначылася правільная рэпертуарная лінія. У дзевяці спектаклях, выпушчаных менш чым за два сезоны, творы савецкай аперэты складаюць пераважную большасць. Ствараецца і нацыянальны рэпертуар — пастаўлены «Спявае «Жаваранак» Ю. Семянякі, «Рэпартаж з пекла» Я. Глебава. Ідуць «Вольны вецер» І. Дунаеўскага, «Халопка» М. Стрэльнікава, «Каўказская пляменніца» Р. Гаджыева, «Увага, здымка!» А. Эшпая. За гэты ж час выпушчаны тры класічныя аперэты — «Баядэра», «Сільва» і «Фіялка Манмартра» І. Кальмана. Тэатр у кожным новым сезоне намячае выпускаць не менш адной нацыянальнай аперэты. Ужо вядзецца работа над стварэннем аперэты «Паўлінка» па камедыі Янкі Купалы і ёсць намер даць аперэтачную версію «Несцеркі» В. Вольскага.

**Доўгі час пасля адкрыцця ў тэатры не было галоўнага рэжысёра. Толькі сёлета ў канцы мая на гэту пасаду запрасілі Э. Корсакава. Да гэтага ж дзевяць спектакляў у тэатры за два сезоны паставілі сем розных рэжысёраў! Гэта не магло не адбіцца на стылявых рысах спектакляў і на ўзроўні выканання роляў. Добра, што пераважная большасць гэтых «разавых» рэжысёраў аказаліся кваліфікаванымі. І яны выпусцілі ў асноўным добрыя спектаклі. У маю задачу не ўваходзіць падрабязнае рэцэнзаванне спектакляў, таму што асобныя рэцэнзіі ўжо з'яўляліся ў друку.**

На маю думку, з сённяшняга рэпертуару толькі два спектаклі не могуць задаволіць патрабавальнага гледача. «Баядэра», якую паставіў артыст В. Шаўкалюк, атрымалася вельмі ж традыцыйнай, а спектакль «Увага, здымка!», падрыхтаваны горкаўскім рэжысёрам А. Даўгаполавым, пазбаўлены, на жаль, выразнай мастацкай задумы. Да гэтага можна было б яшчэ дадаць, што ў наогул удалым спектаклі «Каўказская пляменніца», які паставіў рэжысёр з Азербайджана М. Кларысаў, чамусьці ні ў знешнім выглядзе акцёраў, ні ў манеры іх выканання не адчуваецца нацыянальнага каларыту (выключэнне ў гэтым сэнсе, бадай, толькі адзін артыст В. Шаўкалюк).

Большасць творчых работнікаў падабраны з мясцовых кадраў. Вось тры мінскія дырыжоры — П. Кірыльчанка, Э. Арашкевіч і Г. Хананьеў. Няхай у іх пакуль што мала дырыжорскага вопыту ў спецыфічным жанры аперэты — гэта прыйдзе з часам. Але сам факт смелага вылучэння мясцовых дырыжораў радуе. На пасады галоўнага хормайстра і хормайстра запрошаны Н. Андросава і Г. Палянкова. У тэатры працуе з самага пачатку малады рэжысёр, выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута В. Вярбоўская — работнік, безумоўна, здольны, цікавы. На пасаду галоўнага мастака быў запрошаны з Брэста А. Марозаў, мастак творча цікавы і з добрым густам. Усяляк трэба вітаць запрашэнне на асобныя пастаноўкі мастакоў А. Грыгар'янца і Я. Чамадурава, якія маюць багаты вопыт работы ў оперы і драме.

**У трупе салістаў ёсць нямала акцёраў. На жаль, мне не ўдалося ўбачыць у прагледжаных спектаклях усіх артыстаў. Спынюся толькі на тых, якія здаліся мне цікавымі па творчых якасцях: Н. Гайда, Н. Белавусава і В. Мазур («гераіні»), К. Лосеў і М. Смаршкоў («героі»), Л. Зубцова і С. Муратава («субрэткі»), В. Фаменка («прасцяк»), Ю. Лазоўскі, В. Шаўкалюк, Л. Мацісава (характарна-камедыйнае амплуа), характарныя артысты Н. Равінская, С. Бажэнава, А. Крайнікава, Р. Курлыкова, С. Шчапаў і іншыя.**

**Я карыстаюся старымі тэрмінамі акцёрскіх «амплуа». Што ж, мабыць, аперэта без такіх вызначэнняў, прынамсі ў прафесійных размовах, абысціся не можа.**

**У трупе не хапае вядучага коміка і каскаднай артысткі. Каб завяршыць фарміраванне, неабходна запрасіць яшчэ дзвюх вядучых гераінь, камічную «старую» і вядучага «прасцяка».**

У асобных артыстаў не заўсёды ў парадку з вакалам і дыкцыяй, няма дастатковага ўмення ў падачы тэксту. Улічваючы маладосць асноўнай часткі гэтага калектыву, неабходна, вядома, удасканальваць артыстаў па лініі акцёрскага майстэрства. Гэта справа рэжысуры. Але варта, відаць, і спецыяльна запрасіць педагогаў па вакале і культуры мовы, якія кансультавалі б артыстаў не толькі перад выпускам новых спектакляў, а і давалі б ім парады перыядычна, так сказаць, у рабочым парадку. Гэта дапаможа павысіць майстэрства і асобных артыстаў, і ўсяго калектыву.

**У аперэту мы ходзім не толькі на новыя спектаклі, але, як кажуць, і на любімых артыстаў. «Любімыя» ж часта даюць сабе палёгку — іграюць без унутранага кантакту з партнёрамі, парушаюць рэжысёрскі малюнак, «адхіляюцца» ад тэксту. Добра было б, каб калектыў беларускай аперэты не хварэў на «прэм'ерства», спаганяў з вінаватых за адступленне ад тэксту, за недаацэнку вакалу, за штучнае «выцісканне» смеху ў гледача...**

Масавыя творчыя калектывы таксама падабраны пераважна з мясцовых кадраў. А гэта важна, бо спрыяе фарміраванню сталай трупы — хору, аркестра, балета.

Найбольш стабільнае становішча ў балеце. У штатах прадугледжаны даволі вялікі склад: 32 артысты. Пакуль што застаюцца дзевяць нявыкарыстаных вакансій.

Трэба сказаць, што ў харэаграфіі спектакляў, аўтарам якіх бывае галоўны балетмайстар Л. Травінін, не адчуваеш сапраўды творчай выдумкі, вынаходлівасці, фантазіі. У тых яго работах, што мінчане бачылі, многае зроблена стэрэатыпна. Магчыма, гэта спрэчна, але пакуль што не зусім упэўнена выступаюць нават вядучыя салісты. Трэба спадзявацца, што Л. Травінін яшчэ «раскрыўся» як харэограф не поўнасцю, што, умацаваўшы калектыў яркімі салістамі, ён здолее больш арыгінальна весці харэаграфічную трупу да поспехаў. Хочацца прад'явіць прэтэнзіі і да балетмайстра-рэпецітара Л. Панчанкі. Не заўсёды выразна і адшліфавана выконваюцца танцавальныя нумары. Ці прад'яўляецца прафесійная патрабавальнасць да артыстаў балета? Здаецца, што і ў педагагічным напрамку яшчэ трэба многае зрабіць...

Цяпер пра аркестр. Склад аркестра даволі розны па кваліфікацыі. Ва ўсякім выпадку, па свайму майстэрству ён пакуль што яшчэ не даведзены да ўзроўню аркестра сталічнага музычнага тэатра. Калі я гаварыў пра гэта з галоўным дырыжорам П. Кірыльчанкам, ён спасылаўся на тыя арганізацыйныя і вытворчыя прычыны, якія замінаюць выхаванню музыкантаў. Пра гэта ён сам напісаў у нататках «Па той бок куліс» («ЛІМ», 16 чэрвеня г.г.). Аб'ектыўна ўсё сказанае ім здаецца правільным. Ды толькі і самі дырыжоры павінны прад'яўляць больш патрабаванняў да сябе і да аркестра. Нельга дараваць салістам разыходжанняў з аркестрам. А гэта часта заўважаецца ў спектаклях (тут ужо аркестравая яма ні пры чым). Многае залежыць і ад кваліфікацыі музыкантаў.

**Трэба ў тэатры мець добрых канцэртмайстраў — піяністаў, якія развучвалі б з артыстамі вакальныя партыі і даводзілі іх гучанне да ўзроўню оперных спевакоў. Тады павысіцца вакальная культура ў тэатры.**

Найбольш цяжкае становішча склалася з хорам. Пры наяўнасці 35 штатных адзінак запоўнена ўсяго толькі 10—15. Астатнія выступаюць «на разавых». Хор зусім бездапаможны ў сцэнічных адносінах. Трымае сябе на сцэне статычна і не адчувае сябе ў атмасферы дзеяння п'есы. Слаба пастаўлена і вакальная частка. Канечне, пры такіх умовах і рэжысёры і хормайстры трапляюць у складанае становішча.

**Можна ж і ў студыйным парадку наладзіць заняткі па акцёрскім майстэрстве, вакале і руху са «статыстамі» з хору. Толькі тады яны стануць дзейнічаць у жывой плыні спектакля.**

Хочацца адзначыць, што, нягледзячы на цяжкія ўмовы, у якія пастаўлены работнікі мастацка-тэхнічных цэхаў тэатра, афармленне і касцюмы выглядаюць на сцэне прыгожа і акуратна. Гэта вялікая заслуга загадчыка пастановачнай часткі У. Кучара. А колькі вынаходлівасці ў работах мастака-грымёра Ю. Рабровай, якая рыхтуе парыкі! Майстар па касцюмах З. Палівода дабіваецца добрага выканання і захавання касцюмаў...

ДЛЯ ТАГО, каб Дзяржаўны тэатр музкамедыі БССР стаў сапраўды рэспубліканскім па значэнні тэатрам, яму трэба стварыць добрую вытворчую базу з памяшканнямі для артыстаў і аркестра, а таксама складамі для дэкарацый, касцюмаў і рэквізіту. Атрымаўшы такое падспор'е, калектыў тэатра можа з часам выйсці ў лепшыя аперэтачныя тэатры краіны.

# *ШЧАСЛІВАГА НАВАСЕЛЛЯ!*

**Вытворчы камбінат Беларускага тэатральнага аб'яднання быў арганізаваны ў 1955 годзе. Штат яго складаўся тады ўсяго з дваццаці рабочых, і прадукцыі выпускалася на 22 тысячы рублёў. Паступова, год ад году, прадпрыемства набірала сілу. Летась прадукцыі было выпушчана ўжо на 1 мільён 100 тысяч рублёў.**

**— Адно нязручна: не маем мы сыравіннага фонду, бо няма ў нас сувязі з заводамі-пастаўшчыкамі,— расказвае дырэктар камбіната В. Браім. — Даводзіцца самім ездзіць па розных прамысловых прадпрыемствах Беларусі і ледзь не вымольваць у іх гэтую сыравіну. Мяркуецца, што яе павінен пастаўляць сам заказчык, але часта заказчыкамі з'яўляюцца калектывы сельскай мастацкай самадзейнасці, у якіх няма патрэбных матэрыялаў. А як ім адмовіш? Вось і даводзіцца любымі праўдамі і няпраўдамі даставаць сыравіну самім.**

**Недахопу ў заказчыках мы не адчуваем. Выконваем заказы не толькі ад калектываў, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, але па меры магчымасці задавальняем просьбы арганізацый з іншых гарадоў — Мурманска, Уладзівастока, Херсона і г. д. Нядаўна беларускія касцюмы, якія мы выканалі для горада Тальяцці, атрымалі там на конкурсе першы прыз...**

**Што ж уяўляе вытворчы камбінат БТА, чым ён займаецца? У дзесяці цэхах, якія пакуль што размешчаны ў розных месцах горада, шыюцца тэатральныя касцюмы, расшываюцца тканіны, робіцца рэквізіт, бутафорыя і г. д. На жаль, усе гэтыя патрэбныя рэчы вырабляюцца ў нязручных, непрыстасаваных для работы памяшканнях. Драпіровачны цэх размясціўся ў вільготным склепе без адзінага акна, без належнай вентыляцыі. Уздоўж сцен нагрувашчаны велізарныя цюкі матэрыі — не хапае складскіх памяшканняў. Не ў лепшым становішчы і іншыя цэхі. Цэх роспісу тканін і вырабаў за апошнія восем гадоў чатыры разы мяняў памяшканне і кожны раз няўдала — фарбавальнікі маюць такі моцны пах, што цэх павінен быць зусім ізаляваны. Знайсці такое памяшканне — задача не з лёгкіх. У кравецкім цэху гатовая прадукцыя вісіць проста над столікамі работніц. Цеснata і непрыстасаванасць вытворчых памяшканняў, натуральна, перашкаджае ўкараненню новых сучасных механізмаў. Да таго ж цэхі раскіданы па ўсім горадзе, што нязручна для цэнтралізаванага кіравання вытворчасцю.**

**— Ці будуць у бліжэйшы час палепшаны ўмовы працы? — спытаў я ў В. Браіма.**

**— Гэтае пытанне не раз узнікала перад кіраўніцтвам БТА, — адказаў ён. — Зараз з радасцю магу паведаміць, што праз некалькі месяцаў перавядзем усе цэхі ў новы будынак. Будаўніцтва яго ўжо закончана, засталіся дробныя ўнутраныя даробкі. Кожную суботу і нядзелю калектыў нашага прадпрыемства ходзіць на ачыстку ўнутраных памяшканняў... На 1973 год мы запраектавалі выпусціць гатовай прадукцыі на 1 мільён 975 тысяч рублёў, г. зн. на 600 тысяч рублёў больш, чым сёлета. Ужо цяпер закупляем самае новае тэхнічнае абсталяванне...**

**І вось мы пад'язджаем да велізарнага чатырохпавярховага будынка. Перад фасадам — тэрыторыя, пакінутая для кветніка. Валянцін Яфімавіч паказвае памяшканні, у якіх вельмі хутка размесцяцца цэхі, падсобкі, склады. Шмат святла, выдатныя вентыляцыйныя сістэмы, прасторныя гардэробныя, забяспечаныя душавымі пакоямі.**

**Шчаслівае наваселле будзе неўзабаве святкаваць калектыў вытворчага камбіната БТА. Хутка, хутка ў новы будынак (плошча яго роўная 3253 кв. м) прыйдуць людзі, пачуецца гоман, застракочуць швейныя машыны, загудуць станкі і пачнецца новае жыццё камбіната, які даўно ўжо заваяваў сабе добрую славу.**

**М. СМІРНОЎ.**

# ЯСНАСЦЬ СТАЛАЙ ПАРЫ

ГЭТУЮ КНІГУ я чытаў з тым хвалюючым пачуццём асабістасці, якое прыходзіць толькі пры судакрананні з сапраўднай паэзіяй. А ў гэтым жа, відаць, і заключаецца яе таемная, чароўная сіла, што ўладарыць над розумам і сэрцам чытача, што валодае здольнасцю рабіць радкі, напісаныя іншымі, тваімі ўласнымі — па суперажыванню.

Хто раней,
хто пазней,
Толькі ўсе
Зноў і зноў
Мы прыходзім
Да простых,
як хлеб і паветра,
Высноў:
Што жыццё чалавеку —
Любому —
Даецца адно,
І што,
як ні надточвай,
Кароткае вельмі яно,
І што праўда на свеце
Адна —
Без крупінкі маны,
І што шчасця на свеце
Няма
Без сваёй стараны...
Колькі б ты ні мудрыў,
Як ні кідаўся б ты,
А прыходзіш
Да гэтай святой прастаты...

Як не далучыцца да гэтых слоў паэта, як не знайсці паразумення з «гэтай святой прастатой»! Тым больш, што гаворыць, спавядаецца перад табой — равеснік, твой аднагодак...

Вершам «Хто раней, хто пазней...» адкрываецца новая паэтычная кніга Генадзя Бураўкіна «Жніво». І назва кніжкі, і згаданы верш маюць паміж сабой несумненную сувязь: жніво тут — сімвал сталасці, а сталасць завітвае да чалавека тады, калі ён прыходзіць «да простых, як хлеб і паветра, высноў». Аднак пра гэта — пасля. Напачатку ж вось пра што...

Паэты заяўляюць аб сабе па-рознаму. Адны ўжо сваёю першаю кніжкаю даволі выразна акрэсліваюць характар, схільнасці і магчымасці свайго паэтычнага «я» і ў далейшым паглыбляюць гэты характар і раскрываюць ягоныя схільнасці і магчымасці. Іншыя ж доўгія гады ніяк не могуць вылезці з палону пачаткоўніцкай безаблічнасці, з цяжкасцю прабіваюцца да спазнання простай ісціны, што паэзія — гэта найперш самавыяўленне, «песня сэрца», «гарманічнае тварэнне гарманічнага духу».

З чым выходзіў — яшчэ ў студэнцкія гады — на першую сустрэчу з чытачом Г. Бураўкін? Прыгадаем яго першыя вершы (першыя не ў сэнсе храналогіі, а ў сэнсе творчай біяграфіі паэта), такія, напрыклад, як «Я хачу прайсці па зямлі...», «Я іду», «Калі часам трохі засумуецца...», «Я з твайго неспакойнага племені, Партыя...» і іншыя. Успомнім:

Я хачу прайсці па зямлі
Самым верным, любімым сынам,
Каб дарогі мяне вялі
Пад вятрамі прасторам сінім.

Каб нямоўчна ў мяне на плячах
Росным раннем спявалі птушкі,
Каб я кветкамі ўсімі прапах
Ад падэшваў да самай макушкі,

Каб легенды глухой сівізны
Мне з даверам дубы шапталі,
І крыніц залатыя званы
Для мяне калыхалі хвалі...

Гэтыя радкі выйшлі з-пад пяра дваццацігадовага паэта, і ў іх, як і ў іншых згаданых вышэй вершах, відочны сляды пачаткоўства, сляды чыста юначай нявопытнасці і захопленасці. Але ўжо і тут знайшло сваё выяўленне тое, што вылучала Г. Бураўкіна сярод тых, хто пачынаў адначасова з ім: незвычайная шчырасць і ўзнёсласць лірычнага выказвання, даверлівасць інтанацый, празрыстасць пачуцця, значнасць думкі, адшліфаванасць радка, а яшчэ (што, бадай, галоўнае) — схільнасць да грамадзянскіх матываў, абвостраная публіцыстычнасць, якая шчасліва паяднoўвалася ў яго з глыбокай чалавечай непасрэднасцю лірычных споведзяў. Апошняе стала ці не галоўнай, вызначальнай рысай характару бураўкінскай паэзіі: змест і пафас яе — непрымірымасць да хлусні, подласці, здрады, мяшчанства, прыстасавальніцтва, бескампраміснасць у сцвярджэнні дабра, праўды, справядлівасці, чысціні ў чалавечых узаемадачыненнях, неўміручасці высокіх ленінскіх ідэалаў, прыналежнасці, неадрыўнасці яе лірычнага героя ад роднай зямлі і роднага народа.

Голас паэта мацнеў ад кніжкі да кніжкі, гучаў упэўнена і мэтаімкнёна, не губляючыся ў хоры іншых паэтычных галасоў, гучаў без надломаў і эстэцкай хрыпаты, захоўваючы нерастрачаную сілу маладосці і баявітай, нязломнай жыццесцвярджальнасці.

І вось «Жніво» — кніжка, назва якой, канечне ж, не выпадковая. Кніжка гэтая, несумненна, сведчанне сталасці паэта, той сталасці, якую яшчэ не назавеш «поўднем веку», але з надыходам якой чалавек пачынае ўсё часцей азірацца — яшчэ без смутку і скрухі — назад, на пройдзеныя гады, набывае здольнасць чуць «продкаў галасы» і бачыць «нашых дзён карэнні», калі, пад паглядам «сынавых ясных вачэй», становіцца на свеце «жыць намнога цяжэй і лягчэй».

З гадоў,
калі неба крамсалі
Узнятыя гневам клінкі,
Прыходзяць да нас камісары —
Духоўныя нашы бацькі...

Сцвярджэнне духоўнай еднасці бацькоў і сыноў — гэта было ў Г. Бураўкіна і раней (памятаеце: «Я з твайго неспакойнага племені, Партыя...»). Але ў вершы, які названы суровым і рамантычным словам «Камісары», ёсць і іншае, а іменна:

І марай свяшчэннаю самай
У сэрцах надзея гарыць,
Што нас не ўпікнуць камісары —
Суровыя нашы сябры.

«Нас не ўпікнуць камісары» — гэта сказана ад свайго імя і ад імя пакалення, якое сёння перагнала ва ўзросце сваіх «духоўных бацькоў» і для якога ў адказе на пытанне — упікнуць ці не ўпікнуць? — сэнс жыцця, сэнс чалавечага і грамадзянскага існавання.

Новае, далейшае развіццё атрымаў у паэта і традыцыйны для «маладзейшай» беларускай паэзіі матыў вяртання «бадзягі-сына» ў родную вёску. У вершы «Мая вясковая хаціна...» паэт не клянецца бацькоўскаму куту ў любві (што стала ледзь не паэтычным штампам), не наракае на свой «гаротны» гарадскі лёс. У сваю вясковую хаціну ён прыязджае на споведзь, прыязджае для таго, каб папоўніць свой душэўны запас, каб да скону дзён зберагчы ў сэрцы яе святую навуку.

Тэматычная кніга «Жніво» — разнастайная, але, тым не менш, яна стройная, нават цэласная. Гэтай цэласнасці надаюць ёй ярка выяўленыя ідэйная скіраванасць і пафас твораў, турботлівая думка паэта, якая радуецца, крычыць, абураецца, весяліцца, гневаецца, засмучаецца, але ніколі не заспакойваецца. Кранаючы самыя розныя сферы жыцця, сягаючы ад якойсьці будзённай праявы ў касмічныя вышыні, народжаная ўласным вопытам і ўзбагачаная ведамі іншых, яна, думка паэта, вядзе чытача за сабой, захапляе, здзіўляе, уражвае, радуе нечаканымі паваротамі і супастаўленнямі.

О, век дваццаты:
гэтакія штормы,
Не разбярэш,
дзе неба, дзе зямля.
Патрапіцца няўстойлівы
каторы —
Збівае пеннай хваляй з карабля...

Лепшая песня паэта прысвечана роднаму краю, бацькоўскай зямлі і яе мужнаму народу. «Люблю свой край, зялёны і спакойны...», «Вераснёўскі прыпар», «Вечаровы дождж», «Асенняя элегія», «Вечарамі па чужых узгорках...», «Мінскі трыпціх», «Я над аджылым не дрыжу...», «Лісцё абсыпалі бярозы...» — ва ўсіх гэтых вершах сцвярджаецца «з небам крэўная роднасць, роднасць з мілай зямлёй». Але вершы гэтыя — не «чыстая» лірыка, у іх не толькі сузіральны спакой пейзажных замалёвак.

Лісцё абсыпалі бярозы.
Буслоў не бачна за ракой...
Нібы па споведзі,
цвярозы
Сыходзіць на душу спакой...

Спакой гэты няпэўны, як няпэўны спакой і позняй восені. Хутчэй гэта зусім не спакой, а — «негаваркі сялянскі одум» лірычнага героя: пра тое, «што па-блазенску мітусіўся і часта, як хлапчук, спяшыў і нёс вядро сваё няпоўным, і спатыкаўся шмат разоў, і хваляваўся не галоўным, а выпадковай драбязой...».

Чалавек між людзей... Можа быць, гэта адна з самых важных і трапяткіх праблем часу, калі сацыяльныя і псіхалагічныя сувязі паміж людзьмі планеты надзвычай ускладніліся. Ёсць тут праблемы і менш лакальныя — унутрыграмадскія, сямейныя, узроставыя. І, пэўна, па гэтай прычыне паэт часцей за ўсё скіроўвае свой погляд менавіта сюды. Чалавек павінен быць дабрэйшым, больш уважлівым і спагадным, павінен быць гатовым прыйсці на дапамогу іншым — такі закон нашага ладу. З другога боку, ён павінен быць непрымірымым да заган, якія яшчэ надараюцца ў нашым жыцці, і да іх носьбітаў, павінен быць бескампрамісным у барацьбе з подласцю, прыстасавальніцтвам, бюракратызмам, мяшчанскай бездухоўнасцю. Пра гэта — вершы «Мы хочам зразумець галактык мову...», «Памяці народнага артыста СССР Б. В. Платонава», «Не кліч мяне музыкай мадненькай...», «Можа, ад таго, што ўжо старэю...» і, канечне, «Кампрамісы» і «Хлапчукі» — сапраўдныя ўзоры публіцыстычнай лірыкі, дзе грамадзянская думка паэта дасягае высокага паэтычнага ўзлёту:

Нас усё хлапчукамі клічуць,
Нас усё блазнюкамі лічаць,
Пацяшаюцца «дружбакі».
Спачуваюць, калі вытыркаемся,
Ушчуваюць, калі не каемся.
Кпяць паблажліва: «Хлапчукі!»

Мы бунтуем з запалам хлапечым,
Аб высокіх ідэях ляпечам,
Пром да ісціны напрасткі.
А яны аціраюцца ззаду,
Выглядаюць сабе пасаду
І пасмейваюцца: «Хлапчукі!»

Менавіта гэтыя вершы — сведчанні грамадзянскай і паэтычнай сталасці аўтара, сведчанні, бадай, больш красамоўныя і важкія, чымся тыя вершы, у якіх лірычны герой гаворыць пра «тапаліны пух» на скронях, пра «гадоў пражытых зімні халадок» (хоць гэтым самым я зусім не хачу кінуць цяню на апошнія).

У кнізе «Жніво» ёсць дзве буйныя рэчы — «Хатынскі снег» і «Паэма расстання».

«Хатынскі снег» — гэта своеасаблівы рэквіем ахвярам фашысцкіх злачынстваў на нашай зямлі. Пра ўзнікненне задумы твора Г. Бураўкін расказваў аднойчы па тэлебачанні. Неяк ён трапіў у Хатынь (сённяшнюю, вядома) зімою, і яму раптам зусім па-асабліваму ўбачылася трагедыя, якая адбылася тут 22 сакавіка 1943 года. Нарадзіўся вобраз снегу. Спачатку белага: «застагнаў, загаласіў пад нагамі **белы** балючы снег». З белага балючага ён ператварыўся ў **чырвоны** гарачы, а пасля трагедыі — у **чорны,** жалобны.

Ужо сама па сабе гэтая знаходка паэта ўражвае, падкрэслівае жахлівасць хатынскай трагедыі. А каб жа толькі гэта! Чаго варты, напрыклад, малюнак той сакавіцкай раніцы ў Хатыні, якая так нечакана і жорстка сталася для хатынцаў апошняй:

Жураўлём сакавіцкім раніца
зарыпела.
Бухнула ў студні аб лядок вядро.
Кракнануў пад нагамі снег белы.
Грымнула каля прыпечка бярэмя
бярозавых дроў.
Нясмела кукарэкнуў певень
прастуджаны.
Дзвынкнула аб даёнку тугое
малако.

Генадзь Бураўкін. «Жніво». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1971.

# ЛЮДЗІ СЁННЯШНЯЙ

БОЛЬШАСЦЬ КНІГ Міколы Гроднева напісана на тэмы жыцця вёскі. Гэта не выпадкова. Сын селяніна, журналіст, Гроднеў піша пра тое, што лепш ведае. Мажліва, журналісцкая практыка дыктуе яму і выбар жанру — кароткая аповесць, апавяданне. Гэты найбольш актыўны мастацкі жанр дае пісьменніку магчымасць аператыўна адгукнуцца на тыя зрухі і перамены, што адбываюцца сёння ў нашых калгасах і саўгасах. Праўда, часам такая аператыўнасць не дазваляе глыбока асэнсаваць сутнасць многіх новых з'яў жыцця. Што ж, у літаратурнай справе бываюць нейкія страты.

Прыгадваюцца ранейшыя кнігі М. Гроднева — «За бацькоўскім парогам», «Цяжкае шчасце», і ў іх, у прыватнасці, аповесці «Чужая віна», «Вяртанне», «Сцяпан Покат», некаторыя апавяданні.

Асноўныя героі гэтых твораў — маладыя людзі, якія толькі пачалі свой жыццёвы шлях. Адказнасць чалавека перад сваім сумленнем, перад грамадствам, справядлівасць і дабро — вось тыя асноўныя праблемы, якія найбольш хвалююць М. Гроднева. Ён вырашае іх на глебе будзённага, традыцыйнага ў большай сваёй частцы матэрыялу.

Складаныя працэсы збліжэння вёскі і горада непазбежна выклікаюць пералом у свядомасці маладых людзей. Даследуючы гэтыя працэсы, М. Гроднеў адсылае герояў сваіх аповесцяў з вёскі ў горад. Тут шляхі Сашкі, Дзяніса Кухты, Сцяпана Поката складваюцца па-рознаму. Але несумненна адно: якi б ні быў герой, якія б заганы ні былі ўласцівы яго характару, паводзінам, поглядам на жыццё, — трапляючы ў добры працоўны калектыў, у якім пануе сапраўдная атмасфера павагі, дружбы, узаемадапамогі і патрабавальнасці, чалавек не можа заставацца ранейшым. Пісьменнік лепшымі сваімі творамі слушна даводзіць, што разуменне чалавекам сваёй маральнай адказнасці перад сям'ёй, сябрамі, калектывам, Радзімай робіць яго сапраўдным грамадзянінам.

У сваёй новай кнізе «Заручыны» М. Гроднеў паказвае, як пераўтвараецца вёска ў пасёлак гарадскога тыпу. Радасным, аптымістычным настроем прасякнуты гэты твор. Перасяліўшыся ў новыя дамы, людзі, па сутнасці, пачынаюць новае жыццё. З якім маральным багажом падыходзяць яны да гэтага новага жыцця, што адбываецца з імі далей — вось аб'ект даследавання аўтара. Каб ахапіць пабольш жыццёвага матэрыялу, М. Гроднеў своеасабліва кампазіцыйна будуе твор — гэта аповесць у апавяданнях, кожнае з якіх — карцінка жыцця, дзе ёсць месца і бытавым замалёўкам, і гумару, і трывожным і радасным чалавечым перажываннямі. У аповесці няма адзінай, цэласнай фабулы, але тым не менш твор успрымаецца як завершаны. Аўтар імкнуўся адлюстраваць паток вясковага жыцця, як яно ёсць, часам, можа, ідэалізуючы некаторыя моманты. Але рамантычны погляд на новае, што з'яўляецца ў нашай рэчаіснасці — з'ява заканамерная, без якой, думаецца, немагчыма развіццё і літаратуры, і творчай індывідуальнасці пісьменніка. Стварыўшы карціну новай вёскі, М. Гроднеў стараецца давесці правамернасць спалучэння традыцый вясковага жыцця з лепшымі элементамі гарадской культуры. А ўвогуле, перш за ўсё пісьменніка цікавяць адносіны чалавека да чалавека, адносіны чалавека да працы, да роднай зямлі.

Кожная навела тут — жыццёвы канфлікт, хай сабе на першы погляд і невялікі, але за ім — тэндэнцыя часу, рух перамен у свядомасці людзей. Цяжка развітвацца са старой хатай, з якой звязана ўсё жыццё, і прывыкаць да новай старым людзям, напрыклад, Красанку з апавядання «Красанкова амбіцыя». Яшчэ больш, аказваецца, цяжка аддаваць толькі што атрыманую кватэру, з-за чаго і адбываюцца сваркі ў сям'і Валодзі Гаманкова.

З адчуваннем віны перад сям'ёй і аднавяскоўцамі вяртаецца ў родны калгас Васіль, які блукаў па свеце, невядома чаго шукаючы. Маладыя людзі — Тамара і Ніна — не едуць у горад, а застаюцца працаваць на родных палях, дзе яны сапраўды патрэбны. І зусім ужо нечуваная раней з'ява — раённы архітэктар едзе з жонкай у Навасёлкі. Гэта — прыкмета часу. Сапраўды, будаўніцтва разгарнулася ў вёсках незвычайнае... Сведчаннем таму — Верцялішкі, новы ар-

Мікола Гроднеў. «Заручыны». Выдавецтва «Беларусь». 1972.

# КАБ РАБОТЫ ГУЧАЛІ «ФОРТЭ»



Яго ЧУЦЬ хітраватыя вочы нібы вышукваюць смешнае; здаецца, ён пастаянна настроены востра пажартаваць. Гэта ясна адчуваецца і ў яго работах, якія заўсёды нясуць у сабе адценне гратэску — нават калі яны зусім не гумарыстычныя па сваім харэктары.

Гратэскнасць — адметная рыса творчага почырку кераміста Аляксандра Зіменкі. Яна — у змененых прапорцыях, у агульнай пабудове малюнка, у знарочытай акругленасці ліній ці,наадварот, у крыху большай, чым звычайна, іх вуглаватасці. Зіменка падкрэслівае, гіпербалізуе, завастрае. Гэта праяўляецца не толькі ў форме, такі — сам стыль яго мастацкага мыслення. Вось як, напрыклад, расказвае Аляксандр аб сваёй новай рабоце — афармленні інтэрната персанальных пенсіянераў.

— Разумееш, тут будуць жыць старыя людзі. Старым не зусім лёгка арыентавацца ў паверхах, калі ўсе яны акажуцца аднастайнымі. Другі можна будзе зблытаць з трэцім, трэці — з чацвёртым. Я вырашыў афарміць адзін з паверхаў пад зіму — на пано вялізная сняжынка, другі пад лета — матылёк, і гэтак далей. Не патрэбна будзе лічыць, дзе які паверх, — ужо не зблытаеш!

У гэтых словах — амаль увесь Зіменка-мастак, які імкнецца да максімальнай выразнасці, да таго, каб яго работы гучалі «фортэ». Ён смела і шмат эксперыментуе, шукае новыя формы, новыя прыёмы. Але гэта не навацыі дзеля навацый. Пачуццё меры, густ і вельмі сур'ёзныя адносіны да сваёй працы дазваляюць мастаку нават у самых сваіх незвычайных «фантазіях» застацца ў межах мастацтва.

Відаць, кераміцы пэўнае імкненне да сімвалічнасці ўласціва ў сілу таго, што яна не можа даць столькі дэталяў, намаляваць такую падрабязную карціну, як любы іншы від выяўленчага мастацтва. і таму патрабуе абагульненняў. Абагульненне ж — падстава і перадумова сімволікі. Гэтая спецыфіка керамікі выявілася ў першай жа вялікай рабоце Аляксандра — афармленні інтэр'ера Беларускага аддзялення АДН. Тры ідэі выказваюцца трыма гранічна лаканічнымі сімваламі, якія робяцца дэталямі насценнай керамікі. Ідэя самой перадачы інфармацыі (дзве літары на вагах), ідэя залежнасці інфармацыі ад часу (літары на цыферблаце), ідэя перамогі святла ведаў над цемрай невуцтва (сонца і месяц). Вельмі простыя (хаця і стылізаваныя) формы нясуць тут вялізную сэнсавую нагрузку. Гэта — крок да выканання галоўнай мары Аляксандра Зіменкі: даказаць, што кераміка—такое ж мастацтва, як і жывапіс, скульптура, графіка, што яна дае магчымасць выражаць любыя, самыя буйныя і складаныя творчыя задачы.

Гумарыстычныя работы — наогул рэдкасць у кераміцы — складаюць большасць твораў Аляксандра. Яны дэманструюць амаль усе адценні гумару — ад мяккага жарту да рэзкай, жорсткай сатыры. Проста вясёлая, напрыклад, работа «Матылькам львы не страшныя», а сатырычная група «Пляткары» — сацыяльна завостраная, «злая», бескампрамісная. Зараз Аляксандр працуе над партрэтнай серыяй, дзве работы з якой ужо гатовыя,—гэта «Крытык» і «Мастак». Фігурка крытыка, выкананая са з'едлівай іроніяй, нагадвае шчадрынскіх персанажаў. «Мастак» больш мяккі (адбіліся, відаць, прафесійныя пачуцці аўтара). «Крытык», бадай, уяўляецца нават страшнаватым, але штосьці робіць яго толькі смешным. Што?

— Прапорцыі, — тлумачыць Аляксандр. —Я адкрыў адзін цікавы закон (крыху пазней, праўда, даведаўся, што ён даўно ўжо вядомы псіхолагам). Ты заўважыў, што шчаняты, кураняты і г. д. выклікаюць замілаванне, жаданне іх палашчыць? Гэта, як ні дзіўна, ад таго, што ў іх вялікая галава — такія прапорцыі асацыіруюцца з уяўленнем аб дзяцінстве. Вось і «Крытыку» галаву я зрабіў адзін да трох, і фігурка ўжо не выклікае пачуцця небяспекі, робіцца смешнай.

Зіменка-мастак не абмяжоўвае сябе керамікай. Яго прыцягвае і графіка, і жывапіс, якімі ён збіраецца заняцца як след. Пакуль што Аляксандр толькі спрабуе свае сілы ў гэтых жанрах, шукае сябе — і вынікі атрымліваюцца цікавыя.

Цікава, што сімволікі на палотнах Зіменкі значна больш, чым у кераміцы, — асабліва гэта відаць у серыі «Гульня», задума якой, дарэчы, нарадзілася зусім выпадкова — са спрэчкі з настаўнікам аб тым, чым павінна быць творчасць — працай ці ў нейкай ступені гульнёй.

Нягледзячы на тое, што вынікі сваёй працы Аляксандр ацэньвае сур'ёзна, да самога яе працэсу ён адносіцца «лёгка», трымаючыся пункту гледжання, што калі творчасць пачынае стамляць, яна перастае быць творчасцю. Аднак Зіменка працуе шмат і ўжо дабіўся пэўных поспехаў. Ён, адзін з самых маладых мастакоў Беларусі, прадстаўляў нашу рэспубліку на Усесаюзнай выстаўцы керамістаў у Вільнюсе, адна з яго работ экспануецца ў ленінградскім Рускім музеі.

— Два чалавекі асабліва моцна дапамагаюць мне ў працы, — прызнаецца Аляксандр. — Гэта — мая мама і мастак М. Савіцкі, які літаральна шэфствуе нада мной.

Упершыню асаблівасці светаадчування Аляксандра Зіменкі як мастака пачалі праяўляцца яшчэ ў школе, дзе ён маляваў дэкарацыі да сустрэч клуба вясёлых і знаходлівых. Дэкарацыі гэтыя, зразумела, трэба было не проста намаляваць, а зрабіць вострымі, смешнымі, лаканічнымі—і Аляксандр спраўляўся з гэтым. Тады ж пачалі развівацца і яго арганізатарскія здольнасці: ён стварыў у школе мастацкі савет, які з поспехам афармляў школьныя інтэр'еры.

Выбіраючы прафесію, традыцыйных у такіх выпадках ваганняў Аляксандр не адчуваў. Ён ужо ведаў, што не можа жыць без малюнкаў, без лепкі, без жывапісу. Афармленне аддзялення АДН было яго дыпломнай работай у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Яму прапанавалі застацца ў аспірантуры, але ён абраў іншы шлях...

— Ведаеш,—смяецца Аляксандр,— я падумаў: што лепей — самому пісаць пра іншых, альбо каб іншыя пісалі пра цябе?.. Я—мастак і як мастак магу стварыць нешта новае, яшчэ невядомае, а як тэарэтык я гэтага зрабіць, відаць, не здолею.

Зрэшты, мастацтвазнаўчая праца ўсё ж прываблівае Зіменку. На стале Аляксандра ляжаць гранкі яго артыкула, які рыхтуецца да друку ў часопісе «Декоративное искусство».

Зараз у Зіменкі шмат працы. Нядаўна ён атрымаў заказ ад Беларускага тэлебачання на медаль для міжнародных спаборніцтваў па пяціборстве. Медалі—адзін з любімых «жанраў» Аляксандра, яны яму ўдаюцца, і ён ахвотна іх робіць. У мінулым годзе, напрыклад, стварыў камплект медаляў для ўдзельнікаў добра вядомай мінчанам выстаўкі «Фотаграфіка-71». І ў медалях таксама—дзе больш, дзе менш—адчуваецца тонкая ўсмешка і, гэта галоўнае, багаты ўнутраны свет аўтара—тое, што ўтварае стыль Зіменкі-мастака.

У Аляксандра няма якойсьці адной асноўнай тэмы («Навошта сябе абмяжоўваць?»), але ў яго ёсць свой почырк — вельмі выразны, своеасаблівы. Зіменка — «радыкал», як ён сам сябе называе—бачыць рэчаіснасць востра, арыгінальна, свежа, па-свойму.

**М. КАЛОМЕНСКІ.**

гае зроблена. Я маю на ўвазе і колькасць майстроў, якая з кожным годам павялічваецца, і шматлікія выстаўкі, і, нарэшце, альбомы лепшых работ народных умельцаў, якія цяпер можна знайсці ў нашых магазінах.

— Дадайце да гэтага і значную метадычную дапамогу, якую мы аказваем на месцах—абагульненне вопыту, выпуск метадычных дапаможнікаў, праграму па асновах народнага мастацтва Беларусі для інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры... і многае іншае. Рэспубліканскім домам народнай творчасці ўстаноўлены цесныя сувязі з Саюзам мастакоў, з кафедрамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, а таксама з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Нашы супрацоўнікі ўдзельнічаюць у рабоце рэспубліканскіх мастацкіх саветаў, дзе разглядаюцца работы народных майстроў.

Але я лічу, што работу па развіцці народнай творчасці мы павінны з кожным годам паляпшаць, уважліва вывучаць тэндэнцыі яе развіцця, вынаходзіць для гэтага новыя рэзервы.

— Што вы маеце на ўвазе?

— Думаю, што дзейнасць дамоў народнай творчасці павінна быць пастаўлена на навуковую аснову. Не толькі метадычныя цэнтры па рабоце з мастацкай самадзейнасцю, але і навукова-даследчыя ўстановы —вось пры якой умове дамы народнай творчасці будуць адпавядаць сучасным патрабаванням. Гэта значна пашырыць і сферу дзейнасці дамоў народнай творчасці, і іх уплыў.

— Ці дапамагаюць вам у прапагандзе народнай творчасці прафсаюзныя, камсамольскія арганізацыі?

— Пакуль што малавата. Мы яшчэ шукаем формы цеснага супрацоўніцтва. І не толькі з гэтымі ўстановамі, але і з дамамі мастацкай самадзейнасці, якімі кіруе Рэспубліканскі савет прафсаюзаў (у адрозненне ад дамоў народнай творчасці, якія падпарадкоўваюцца Міністэрству культуры БССР). Здараецца, што яны дубліруюць нашу работу: не знаходзяць новыя таленты, а працуюць з даўно вядомымі ў дамах народнай творчасці майстрамі. Тыя часам атрымліваюць супярэчлівыя парады і рэкамендацыі. Гэта ідзе не на карысць агульнай справе. Што ж датычыць іншых устаноў, то ў арганізацыі фестываляў, аглядаў мастацкай самадзейнасці ўдзельнічаюць і органы культуры, і прафсаюзныя ўстановы, і гаркомы, райкомы камсамола. Іх ацэнка пры падрыхтоўцы фестываляў, аглядаў мастацкай самадзейнасці можа быць слушнай.

Дабіваемся таксама, каб абласныя ўпраўленні культуры штогод выдзялялі і прадугледжвалі ў каштарысе сродкі для таго, каб набываць лепшыя творы народных майстроў у фонды музеяў і для калекцый абласных дамоў народнай творчасці.

— Дарэчы, аб зборы экспанатаў. У абласных ДНТ, у вас ёсць такія калекцыі. Але яны, відаць, не задавальняюць патрэбы ў нагляднай, як кажуць, «матэрыяльнай» прапагандзе народнай творчасці?

— Безумоўна. Як ніколі востра паўстае зараз пытанне аб пастаяннай экспазіцыі народнай творчасці. Экспазіцыі, для якой мы рэгулярна збіралі б экспанаты і якая ў будучым стала б асновай для музея народнага мастацтва Беларусі. Мы марым аб такім музеі. Канечне, для гэтага патрэбен і час, і сродкі, але пачынаць можна ўжо цяпер. Узяць хаця б конкурс па збору народнай творчасці: нядаўна аб'явілі, а ўжо пішуць нам настаўнікі, школьнікі, рабочыя, прысылаюць тэксты, ноты. Энтузіястаў народнай творчасці з кожным годам бо́льшае, і стварэнне музея — не такая ўжо недасягальная задача.

У стадыі вырашэння і другая наша прапанова: аб стварэнні тэлевізійнага тэатра народнай творчасці. Тут таксама ёсць свае цяжкасці, але, калі кіраўніцтва Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні пойдзе нам насустрач, мастацкія калектывы, асобныя выканаўцы, майстры мастацкіх вырабаў атрымаюць новы стымул для сваёй творчасці, магчымасць абмяняцца вопытам. Ахвотней пойдзе ў самадзейнасць моладзь...

— Увогуле, калі глядзець на ўдзел моладзі ў развіцці народных промыслаў, то відаць, што яшчэ мала маладых вырабляюць прыгожыя беларускія сувеніры, мастацкія вышыўкі, тканіны. А ў мастацкай самадзейнасці таксама магло б быць куды больш удзельнікаў?..

— Сапраўды, у развіцці мастацкай самадзейнасці мы павінны арыентавацца на моладзь. Асабліва мала ўдзельнічае яна ў гуртках выяўленчага мастацтва, тэхнічнай творчасці, кіна- і фотагуртках. Ды і саміх гурткоў мала: усяго 43 калектывы выяўленчага і 204 кінафотамастацтва на рэспубліку. І гэта ў сферы самых сучасных відаў мастацтва!

Мы забываем пра тое, што выпускнікі інстытутаў атрымліваюць «другую прафесію», якая можа нам вельмі і вельмі дапамагчы. Абавязкова трэба праз раённыя аддзелы культуры прыцягваць маладых спецыялістаў да работы ў гуртках, да прапаганды народнага мастацтва. Мы павінны выкарыстоўваць гэтую «другую прафесію» як мага паўней. І ставіць пытанне так: юнак і дзяўчына павінны не толькі цікавіцца, што знаходзіцца ў бабуліным куфры, але і самім папаўняць вялізную і шчодрую скарбонку народнага мастацтва...

**В. БЕЛЯЗЕКА.**

## КАБ БАГАЦЕЎ РОДНЫ КРАЙ

Прыцягнуць увагу людзей да прыроды, навучыцца правільна выкарыстоўваць багацці нашых лясоў, азёраў, рэк — такая мэта рэспубліканскага конкурсу на лепшае асвятленне ў друку праблем, звязаных з аховай прыроды.

Конкурс на працягу трох год праводзяць Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па ахове прыроды, Рэспубліканскія саветы Беларускага таварыства аховы прыроды і Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

Як адзначае журы конкурсу, у гэтым годзе ў ім прымае ўдзел каля 20 творчых калектываў.

Лепшай прызнана рэспубліканская «Сельская газета», якая шырока асвятляе пытанні землеўладання, рацыянальнага выкарыстання водных рэсурсаў. На старонках газеты часта выступаюць вучоныя, спецыялісты, работнікі лясной гаспадаркі, калгаснікі.

Другія прэміі прысуджаны абласной газеце «Віцебскі рабочы» і Гомельскай студыі тэлебачання.

«Настаўніцкая газета», «Звязда», Брэсцкая абласная газета «Заря» ўдастоены трэціх прэмій.

Дыпломы і прэміі за лепшыя аўтарскія матэрыялы, за арганізацыйна-масавую работу прысуджаны настаўніку сельскай школы Р. Ігнаценку, журналістам А. Касенку, В. Старцаву, А. Сцепанцу, І. Тэвелеву, мастацкаму рэдактару «Бярозкі» П. Драчову.



**Супрацоўнікі Літаратурнага музея Якуба Коласа выказваюць глыбокае спачуванне вучонаму сакратару музея М. І. Пратасевічу з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.**

 ПАДЗЕІ, ФАКТЫ, НАВІНЫ ПАДЗЕІ, ФАКТЫ, НАВІНЫ ПАДЗЕІ, ФАКТЫ, НАВІНЫ

# СУСТРЭЧЫ З ЦІКАВЫМ

Чатыры дні ў Бярозаўскім раёне гасцявалі галоўны рэжысёр Маскоўскага тэатра сатыры В. Плучак, загадчык літаратурнай часткі тэатра М. Лінецкая і беларускі драматург А. Макаёнак.

Яны сустрэліся з працаўнікамі калгаса «Запаветы Леніна», саўгаса «Прамень», пабывалі на Бярозаўскай ДРЭС імя 50-годдзя БССР, птушказаводзе «Альшэўскі».

У адзін з дзён адбылася сустрэча гасцей з членамі літаб'яднання «Крыніца», на якой В. Плучак цікава расказаў аб законах творчасці, аб уменні мастака «бачыць і чуць» навакольны свет, аб патрабавальнасці мастака да сябе. Ён паведаміў аб тым, што Маскоўскі тэатр сатыры вельмі зацікаўлены тэмай сучаснай вёскі. Гэтай тэме прысвечана п'еса А. Макаёнка, над якой зараз працуе драматург.

А. Макаёнак расказаў аб рабоце над п'есамі, адказаў на шматлікія пытанні.

М. Лінецкая коратка азнаёміла прысутных з тым, над якімі творамі зараз працуе тэатр.

●

У Бярозаўскім райкоме партыі адбылася сустрэча народнага паэта Беларусі М. Танка з членамі літаратурнага аб'яднання «Крыніца».

М. Танк расказаў аб сучасным стане беларускай літаратуры, аб яе інтэрнацыянальных сувязях з літаратурамі братніх рэспублік і зарубежных краін. З цікавасцю быў выслуханы расказ народнага паэта аб творчасці — пошуку тэмы, патрабавальнасці аўтараў да сябе, уменні адбіраць галоўнае і г. д.

Я. СЯЛЕНЯ.



Днямі ў інстытуце «Мінскпраект» адкрыўся новы народны кніжны магазін, арганізаваны на сродкі і пры ўдзеле аматараў літаратуры. На грамадскіх асновах дырэктарам магазіна працуе інжынер Аляксей Школьны, прадаўцамі — старшы інжынер Валерыя Піражкова, архітэктар Яўгенія Сап'янік і тэхнік Тамара Хорт. Тут прадаецца мастацкая, палітычная літаратура, літаратура па архітэктуры і мастацтве.

Гэты здымак зроблены ў час адкрыцця народнага кніжнага магазіна.

Фота Ул. КРУКА.

# МАСКОЎСКІ ТЭАТР З МАЛОЙ БРОННАЙ—У МІНСКУ



Толькі за першую палавіну гастроляў на спектаклях тэатра пабывала звыш 28 тысяч мінчан і гасцей сталіцы, і гэта далёка не поўная лічба тых, хто так ці інакш далучаецца да мастацтва тэатра, творчасці яго акцёраў.

Па некалькі творчых сустрэч з гледачамі правялі артысты С. Сакалоўскі і Г. Сайфулін. На гэтых сустрэчах акцёры расказвалі аб сваёй творчасці, дэманстравалі ўрыўкі з кінафільмаў, адказвалі на шматлікія пытанні. Некаторыя акцёры тэатра падтрымліваюць творчыя кантакты з беларускім кіно і цяпер здымаюцца на «Беларусьфільме». Так, артыст Л. Дураў здымаецца ў фільме рэжысёра Б. Сцяпанава «Вобласці», дзе іграе адну з цэнтральных роляў. Яго герой Лёнька — чалавек неспакойны, увесь у пошуках, ён ідзе па жыцці сваім шляхам. Прымае ўдзел акцёр і ў фільме «Зямля, да запатрабавання» рэжысёра В. Дормана, які прысвечаны савецкаму разведчыку Льву Маневічу. Дарэчы, у гэтым фільме здымаецца і другі акцёр тэатра Л. Канеўскі, вядомы нашаму гледачу па шэрагу работ у кіно. Зараз Л. Канеўскі здымаецца і ў камедыі рэжысёра А. Ігішава «Вось і лета прайшло», дзе выконвае ролю дзядзькі Аліка — любімца і вялікага сябра юнага героя фільма.

У гэтыя дні на Беларускай кінастудыі і на здымачнай пляцоўцы ў Наваполацку, дзе ідуць натурныя здымкі, можна сустрэць і Б. Кудраўцава: ён заняты ў фільме рэжысёра І. Дабралюбава «Вуліца без канца» ў ролі Ярошкі, былога франтавіка, Героя Савецкага Саюза, а цяпер мантажніка-высотніка. Гэты фільм — аб рабочым класе нашай рэспублікі, ён павінен выйсці на экраны ў пярэдадзень святкавання 50-годдзя Савецкага Саюза.

Гастрольныя будні маскоўскага тэатра ў Мінску вельмі насычаныя: два спектаклі кожны вечар, плюс два ранішнія спектаклі ў суботу і нядзелю, і рэпетыцыі. І ўсё ж акцёры знаходзяць магчымасць сустрэцца са сваімі гледачамі на прадпрыемствах. Такая сустрэча, напрыклад, адбылася 14 ліпеня на Мінскім маторным заводзе. Гаспадары сустрэлі акцёраў з радасцю, пазнаёміліся з сэрцам завода—зборачным канвеерам, з якога праз кожныя дзве з паловай мінуты сыходзіць новенькі матор для трактара «Беларусь». Намеснік старшыні заўкома М. Касарэвіч расказаў аб заводзе, аб яго планах на будучае, аб людзях, якія працуюць у яго цэхах. Акцёры далі канцэрт. Сцэны са спектакляў, сцэнкі і скетчы ў выкананні артыстаў Г. Васільева, А. Левінсон, Т. Давыдава, В. Платава. Л. Платонава, Н. Глазунова, А. Шыршова былі цёпла сустрэты рабочымі. Арганізатары сустрэчы паднеслі гасцям кветкі, падарылі памятныя значкі.

За час знаходжання ў Мінску маскоўскія артысты наведалі яго музеі і выдатныя мясціны, выязджалі ў Хатынь і на Курган Славы.

Было і такое — тэатр наладзіў таварыскі футбольны матч з камандай завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. І хоць гульня закончылася з лікам 7:1 не ў карысць зборнай тэатра, артысты не засмучаюцца, бо над усім панавалі добры настрой, шчырасць, дружба.

К. БЕЛАВУСАЎ.

# РАДКІ З ПІСЕМ

□ Дзесяць дзён у Лунінецкім раёне праходзіла дэкада братняй Украіны, прысвечаная 50-годдзю ўтварэння СССР.

У Лунінцы пабывала вялікая дэлегацыя Сарненскага раёна. У калгасах і саўгасах, на прадрыемствах былі арганізаваны гутаркі і даклады аб дасягненнях Савецкай Украіны, аб брацкай дружбе ўкраінскага і беларускага народаў.

У дэкадзе прынялі ўдзел і мастацкія калектывы Украіны: танцавальны ансамбль «Пралеска», вакальна-інструментальны ансамбль «Верас», а таксама народны хор калгаса імя Ватуціна — лаўрэат Усесаюзнага і рэспубліканскага фестываляў.

Ф. НЕФІДОВІЧ.

□ Гарачыя дні стаяць на палях рэспублікі. У гэты час, калі працаўнікі вёскі старанна вядуць нарыхтоўку сенажу, агітбрыгады выступаюць з канцэртамі на лугах і сенажацях. Толькі за два дні — у суботнік і нядзельнік, што праводзіўся 24 і 25 чэрвеня, агітбрыгада Тураўскага дома культуры дала пяць канцэртаў для хлебаробаў калгасаў «Савецкая Беларусь», імя Калініна, «Шлях да камунізма» і ў іншых гаспадарках.

І. НОВІКАЎ.

□ Гродзенскі абласны драматычны тэатр сыграў спектакль «Блудны сын» латышскага драматурга Р. Блауманіса.

Гэта трэцяя пастаноўка калектыву, збор з якой паступіў у фонд міру.

Ул. ДЗЁМІН.

□ Жыхары Казахстана цёпла прымалі гасцей з братняй Беларусі—маладзёжны эстрадны ансамбль «Песні над Сожам». Гамяльчане далі некалькі канцэртаў у Карагандзе і ў гарадах-спадарожніках Абаі, Шахцінску, Сарані, Тэміртау.

А. КІТАЕЎ.

□ У госці да хлебаробаў калгаса імя ЦК КПБ Пухавіцкага раёна нядаўна прыязджалі артысты Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета. Спявак А. Ніканораў выканаў беларускія народныя песні, салісты балета В. Храброва і В. Нязанава — танцавальныя нумары.

М. ШМАРЛОЎСКІ.

# СПЯВАЕ «ВЯСНЯНКА»



На самым поўдні Палесся шмат песенных вёсак. Адна з такіх — Ліпляны, цэнтр калгаса «За камунізм». З пакалення ў пакаленне перадаюць тут песенную спадчыну.

Ужо 20 гадоў, як у вёсцы Ліпляны існуе калектыў мастацкай самадзейнасці. А пяць год назад узнік дзявочы вакальны ансамбль «Вяснянка». Кіруе ім Наталля Лось, загадчыца клуба. А спяваюць, апроч яе, Таня Шчабетнік — галоўны бухгалтар калгаса, Аня Халько — аграном, Ніна Лось — работніца мясцовага цагельнага завода і яшчэ дзяўчаты.

Ансамбль часта выязджае з канцэртамі да суседзяў. Сёлета яго бачылі ў многіх калгасах і саўгасах раёна.

В. ЯРАЦ, В. ЗЯЛЕНКА,
работнікі
Гомельскай студыі
тэлебачання.

## Што пішуць пра нас

# УЗНІМІСЯ, ЧАЛАВЕК!

У абласной газеце «Рабочий край» № 133 за гэты год апублікавана рэцэнзія на спектакль «Рамэо і Джульета» Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, які сёлета гастралюе ў Іванаве. Ніжэй перадрукоўваем рэцэнзію з невялікімі скарачэннямі.

...Тэатр пачаў размову з гледачамі спектаклем «Рамэо і Джульета». Гуманістычныя ідэі свабоды, чалавечнасці, радасці жыцця, чысціні і глыбіні пачуццяў, якія складаюць сутнасць бессмяротнай трагедыі Шэкспіра, патрэбныя і блізкія сучаснаму чалавеку. Выклік, які кінулі юныя закаханыя з Вероны ханжаскаму свету, не можа не хваляваць нас.

Пастаноўшчык спектакля — галоўны рэжысёр тэатра У. Караткевіч — рэалізаваў у вобразным рашэнні ўсё тое, што робіць трагедыю Шэкспіра з'явай нашага часу. Адсюль — зусім апраўданы лаканізм формы, які выдатна спалучаецца з глыбінёй думкі і сацыяльна - псіхалагічнай характарыстыкай персанажаў. Шырока адкрытая сцэнічная пляцоўка, вызваленая ад усяго лішняга (мастак спектакля Ю. Тур), дала прастору акцёрскай творчасці. І спектакль ідзе ў напружана-хуткім тэмпе, які дакладна адпавядае абвалу падзей і фатальных выпадковасцей, што прыводзяць да пагібелі — і да перамогі — Рамэо і Джульету. Узнімíся, чалавек, і перамажы зло! І сіла праўды, і шчырасць пачуццяў перамагаюць у гэтым шэкспіраўскім шэдэўры.

У трупе нашых гасцей многа цікавых акцёраў. Гэта паказаў і першы спектакль. Атрымалася так, што звычайныя гастрольныя цяжкасці ўскладніліся неабходнасцю замены ў апошні момант выканаўцы ролі Рамэо (артыст не здолеў прыехаць у Іванава). І гледачы аказаліся сведкамі своеасаблівага дэбюту: ролю Рамэо сыграў сам рэжысёр У. Караткевіч. Не экспромтам, вядома. Бо як пастаноўшчык ён прадумваў усе нюансы ролі. Але толькі поўная самааддача і сапраўдны артыстызм забяспечылі яму поўны поспех. У. Караткевіч напоўніў вобраз свайго героя складанасцю перажыванняў і ўзрушанасцю думак, высакароднай стрыманасцю і сілай усепаглынальнага кахання, якое ўзнялося над забабонамі і дзікасцю сярэдневякоўя. Светлы і чысты юнак, які прадстае перад намі, літаральна на вачах сталее, робіцца мудрым і моцным, здольным дастойна ацаніць марнасць і мішуру свету сацыяльных супярэчнасцей, і ў выніку паўстаць супраць яго.

Такая і Джульета. Яе каханне да Рамэо — выклік, кінуты варожаму свету. Актрыса Н. Караткевіч паказвае гэта шчыра, выразна. І хіба толькі Джульета-дзяўчынка ў першых сцэнах (да сустрэчы з Рамэо на бале) здаецца гледачу, можа, вельмі даросла, нібы ўжо ўвабраўшай мудрасць моцнага пачуцця.

Важную для гуманістычнай ідэі і для фабулы п'есы ролю мудрага і добрага манаха Ларэнца іграе народны артыст БССР С. Бульчык. У акцёрскай трактоўцы мудрасць Ларэнца яўна падначалена дабраце. Адчуваецца, што дзейсную дапамогу закаханым ён аказвае менавіта па дабраце сардэчнай, што, безумоўна, адпавядае зместу вобраза, створанага Шэкспірам, але не вычэрпвае яго.

Рэжысёрскі мантаж тэксту вылучыў на першы план сярод сяброў Рамэо Бенволіо. Яму давераны словы ў пралогу, ды і заключная рэпліка, а не Эскалу, як у п'есе. Акцёр Н. Вайцюк у ролі Бенволіо знаходзіцца на ўзроўні, вартым гэтай ускладнёнай задачы; ён высакародны, стрыманы і чысты.

Вельмі яркі, своеасаблівы і блізкі да сучаснай моладзі сваёй рашучай насмешлівасцю, зменай настрояў Меркуцыо (А. Гаманюк). Дарэчы, артыст, як, між іншым, і большасць удзельнікаў спектакля, вельмі пластычны, добра фехтуе, свабодна і ўпэўнена карыстаецца багатым акцёрскім арсеналам.

Спектакль Магілёўскага тэатра можа, вядома, быць больш дасканалы. Не заўсёды апраўданы даволі значныя купюры і пераманціроўкі тэксту; губляецца пэўная частка шэкспіраўскага гумару, і таму спектакль крыху рацыяналістычны. Вельмі «забытоўлена» карміліца (заслужаная артыстка БССР Ю. Гальперына), — у ёй праглядваюць рысачкі сваццяў з п'ес А. Астроўскага. Бадай, вельмі трывіяльна традыцыйныя старэйшыя Мантэкі (заслужаны артыст БССР С. Яворскі і заслужаная артыстка РСФСР Э. Міхайлава) і Капулеці (народны артыст РСФСР М. Радзіёнаў і заслужаная артыстка БССР З. Малчанава), крыху просталінейны граф Парыс (В. Смірноў). Часткова ва ўсім ёсць свой рэзон: так мацней адцяняецца іх прыналежнасць да мінулага. Своеасаблівa рэзкая лінія герцага Эскала (заслужаны артыст БССР А. Рудакоў), пакуль яшчэ дысгарманіруе з агульным стылем спектакля.

Работа магілёўчан — перспектыўная, творчая работа. Яна дэманструе вялікія магчымасці калектыву, сталасць думкі. Нават на фоне англа-італьянскага фільма, які шырока дэманструецца ў Іванаве, спектакль гасцей не губляецца і не робіцца менш ўражлівым.

Аркадзь ПАЎЛАЎ.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**




Як я ні стараўся ціхенька сабраць з вечара падрыхтаваныя на дарогу рэчы, ён пачуў, што я прачнуўся і зашкрабаў пад дзвярыма. Я адчыніў.

— Прабач. — сказаў ён, тупаючы за мной на кухню. — Так курыць захацелася, аж вушы пухнуць, а запалак няма...

Па вачах бачу — не запалак ён шукае сярод посуду.

Я даў яму карабок.

— Ты куды сабраўся?—спытаў ён, зірнуўшы на маю сумку і плашч.

— Па грыбы...

— Пляшку, нябось, паклаў сюды...

— А як жа...

Я ўзяў сумку, гатовы ісці. Цімох пачухаў патыліцу.

— Можа і мне падацца з табою...

А сам з сумкі маёй вачэй не зводзіць, відаць, учора добра падпіў і гатоў за пляшкай ісці на край свету.

— Чаму ж не,—адказваю. — Прыемна па лесе пахадзіць, грыбкоў пашукаць, падыхаць свежым паветрам.

— Эх, пайду,—рашыў ён. — Трэба прасвяжыцца...

Я зачыніў кватэру і мы пайшлі на вакзал. Горад яшчэ не прачнуўся, толькі дзе-нідзе на шырокіх, абмытых з вечара даждком тратуарах, з'яўляліся прахожыя. Праменні сонца пераліваліся і зіхацелі ў буйных кроплях на лісцях дрэў і ў лужынах на асфальце. Прыемная свежасць праганяла сон.

— А хораша раніцою прайсціся па горадзе, — сказаў я.

— Мгу, — буркнуў Цімох, — толькі дрэнна, магазіны ўсе зачынены...

У вагоне Цімох сядзеў прыгнечаны, сумна пазіраў на маю сумку. На ўсе мае словы адказваў абыякава:

— Мгу... Мгу...

— Ты аб чым зажурыўся, Цімох?—пытаю.

Цімох уздыхнуў.

— Думаю, брат, во каб мне ўсе тыя грошы, што я прапіў...

«Бярэцца за розум хлопец», — узрадаваўся я. Пытаю:

— Ну, а што б ты зрабіў з тымі грашыма?

— От мы б з табою выпілі...

Ён засмяяўся, а мне не хацелася смяяцца. Доўгі час я ўжо не бачу Цімоха на цвёрдых нагах.

— Ты, відаць, забыўся, — кажу, — пра вялікую прыемнасць быць цвярозым. Весялуха таксама прыядаецца. Ды і не весяліць яна, калі часта яе ўжываем, а прыгнятае. Вось паходзіш па лесе, ажывеш...

У лесе Цімох сапраўды ажыў. Прайшла, відаць, смага пахмяліцца. Ён нават паружавеў. Шнырыў пад галінкамі, радаваўся, калі знаходзіў там грыб. І ўсё ж тая пляшка, якая ляжала ў маёй сумцы, не давала яму спакою. Цяпер, мабыць, ужо не з патрэбы пахмяліцца, а з прывычкі.

Урэшце надышла хвіліна падсілкавацца.

— На вось сумку, — кажу, — вымай адтуль пажыткі, а я тым часам на хвілінку адлучуся. Тут побач заўсёды грыбкі былі...

— Ну, давай.

Я схаваўся ў кусты і... пачаў сачыць за Цімохам. Тым часам ён, нічога не падазраючы, выцягнуў з сумкі газету, расклаў яе на траве, потым — бутэрброды. Урэшце, выцягнуў самае галоўнае і... божа! Ці ж можна апісаць выраз яго твару! Я ўжо не ведаў, падыходзіць да яго ці ўцякаць дахаты. Усё ж наважыўся. Падыходжу, як бы нічога не здарылася.

— Хтосьці зрэзаў мае грыбы...

А ён:

— Ты што, здзеквацца з мяне рашыў?

— А што?—пытаю, быццам не ведаю, што да чаго.

— Што! Ты ж казаў, пляшку ўзяў.

— А гэта хіба не пляшка?

— Хваробу б я пайшоў з табой у лес, калі б ведаў, што гэта пляшка піва. Толькі час змарнаваў...— Ён устаў і сярдзіта пашыбаваў у бок станцыі.

— Ну, бяжы, наганяй час, — сказаў я яму ўслед.

Увечары я вярнуўся ў горад. Набраў поўную сумку баравікоў, надыхаўся свежым паветрам. Настрой быў цудоўны. Аднаго баяўся, не сустрэцца б з Цімохам дзе на сходах.

І толькі я пра гэта падумаў, бачу, паводдаль стаіць Цімох, абняўшы ліпу, а каля яго—міліцыянер.

— А што?—пачуў я праз хвіліну ўпарты голас Цімоха. — Нельга тут стаяць? Можа я каго чакаю. Можа хачу падыхаць свежым паветрам. Каму якое дзела? Я прыроду люблю, свежае паветра...

Убачыўшы мяне, Цімох узрадаваўся:

— Вось чалавек, якога я чакаю!..

Ён вызваліў ліпу са сваіх абдымкаў і накіраваўся ў мой бок, але не зрабіў і кроку, як... грымнуў проста пад ногі міліцыянеру.

— Гэта ваш знаёмы?—спытаў міліцыянер, з цікавасцю зірнуўшы на мае грыбы.

— Сусед.

— Далёка дзе жыве?

— Тут, побач.

— Не дайшоў, значыць...

І ўжо сумна павярнуўшыся да п'янага, сказаў:

— Ну што ж. Давядзецца забраць. Надыхаўся... прыродай...

Я. ГЕРЦОВІЧ

## ГОРКІ СМЕХ

Шчаслівы, як цыган,
Што краў у Зэльве коней,
Ці як заезджы комік
(На іх расце цана),
Брыдзеш сабе далёка
Ад тлуму, мітусні.
Захочаш — загалёкай,
Захочаш — дык засні.

Юрка ГОЛУБ.

**Шчаслівы, як цыган,**
**Што здаў на бойню коней,**
**Брыдзе заезджы комік**
**Між пушчаў і палян.**
**Брыдзе сабе далёка**
**Без мэты, без дарог,**
**Не хоча ні галёкаць,**
**Ні спаць без задніх ног.**
**Пад гэтай самай кручай**
**Калісь стаяў паэт**
**І песняй неўміручай**
**Здзівіў аж цэлы свет.**
**Пад гэтай самай ліпай**
**Без схем, чарнавікоў,**
**Народжана не ліпа,**
**А верш у сто радкоў.**
**Хоць не сказаў нікому**
**Паэт пра свой маршрут,**
**Знайшоў мясціну комік,**
**Дзе твораць без пакут,**
**Знайшоў, прысеў і прачытаў**
**Паэтаву падборку,**
**Паэта комікам прызнаў**
**І засмяяўся горка.**

Барыс БЕЛІЖЭНКА

## ПАЭТУ

— Гэй! Хто там, на Парнасе?
Я прыехаў.
Ці вельмі строгія у вас гаспадары?
Мо трэба браць сталёвыя даспехі,
Каб тут прабіцца як у песняры?..
Гляджу, выходзіць хлопец зухаваты,
Вачамі прапякае навылёт:
— Ты што тут робіш каля нашай хаты,
Так прагна пазіраеш цераз плот?
— Ды вось,—кажу,—прывёз паўпуда
рыфмаў.
Дзе скласці іх і выпісаць квіток?
Як перапезці мне праз вашы рыфы
І трапіць у пісьменніцкі гурток?..
Ён пачытаў уважліва, прыкінуў
І даў, падумаўшы, адказ:
— Прывёз у Мінск ты, хлапчанё,
мякіну,
А тут авёс адборны жрэ Пегас.

## ГЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

**Працягваем публікацыю слоўніка «Вясёлай трасянкі», які выклікаў і, спадзяёмся, яшчэ будзе выклікаць водгукі ўдзячных чытачоў і рацпрапановы па яго паляпшэнні і ўдасканаленні. Чакаем!**

*Галіцца (быт.)—распранацца.*

*Гуляш — прагульшчык.*

*Даляглядь (праф.)—аматары заглядваць у слоўнік Даля.*

*Душ (рэліг.)—духоўны саноўнік.*

*Завербавацца (жарг.)—схавацца за вярбу.*

*Зубіла (жарг.)—хуліган.*

*Калабок (праф.) — медсястра са шпрыцам.*

*Лазер—верхалаз.*

*Насупіцца—наесціся супу.*

*Несусветны — малавядомы пісьменнік.*

*Падагра (тэхн.)—машына для падагрэву.*

*Падранак (жарг.)—запознены гуляка.*

*Пікнуць (вайск.—гіст.)—кальнуць пікай.*

*Піратэхнік (спец.) — арганізатар банкетаў.*

*Прытулак (размоўн.)—жыхар ваколіц г. Тулы.*

*Самагон (тэхн.) — перпетуум мобіле.*

*Троя (жарг.)—складчына на траіх.*

*Турбавацца (быт.)—адпачываць на турбазе.*

*Туш—пажарнік.*

І. ДАШЧЫНСКІ, П. САКОВІЧ.

Марыуш КВЯТКОЎСКІ

## ЯК АДПАЧЫВАЦЬ?

У НАШ ЧАС рабочы дзень чалавека загружаны з пачатку да канца. Вось чаму вельмі важна ўмець рацыянальна арганізаваць свой адпачынак. Дарэчы, адпачынак не толькі пасля работы, але і на рабоце. Як вядома, разумовая праца стамляе чалавека. Восем гадзін перакладвання паперак з адной скрынкі стала ў другую, пастаяннае напружанне, выклікана тым, каб, барані бог, не даць станоўчага адказу наведвальнікам, — усё гэта выклікае моцнае разумоваеператамленне і знясіленне нерваў.

З якіх фактараў павінен складацца арганізаваны, рацыянальны адпачынак на рабоце? Па-першае, патрэбна ўсялякім чынам пазбягаць яе. Але гэтага мала. Імкнучыся арганізаваць рацыянальны адпачынак на рабоце, мы павінны перш за ўсё прыбраць усё тое, што нам перашкаджае. Напрыклад, каб больш эфектыўна адпачываць, трэба прыкрыць вочы далонню — гэта дасць магчымасць хутчэй забыцца пра работу. Часам карысна заткнуць вушы ватай, што засцеражэ вас ад пабочных гукаў, якія маглі б перашкодзіць вам бачыць прыемныя сны. Пабочныя гукі, у тым ліку размовы, храпенне калег і г. д., вельмі зніжаюць прадукцыйнасць адпачынку.

Неабходна весці непрымірымую барацьбу і з шумам. У памяшканні, у якім мы разумова адпачываем, павінна панаваць абсалютная цішыня. У пакоях і калідорах неабходна паслаць тоўстыя дываны і палавікі, якія б заглушалі крокі; дзверы трэба шчыльна зачыняць (асабліва ад дакучлівых наведвальнікаў).

Вялікі шум ствараюць пішучыя і лічыльныя машынкі. Значыць, ад іх трэба адмовіцца. Шарыкавыя ручкі з поспехам могуць замяніць пішучыя машынкі, а замест лічыльных машын трэба завесці далікатныя драўляныя лічыльнікі.

Ні ў якім разе не трэба браць на работу людзей, якія храпуць у час сну. Калі ж такі ўсё ж апынецца сярод нас, неабходна яго самым належным чынам ізаляваць, высунуўшы яго на кіруючую работу, дзе ён будзе мець асобны кабінет.

Каб прадуктыўна адпачываць, неабходна перш за ўсё ўсімі спосабамі адцягнуць сваю ўвагу ад работы.

З'явіўшыся ва ўстанову, трэба пачаць свой працоўны дзень з адпачынку, вельмі неабходнага пасля намаганняў, прыкладзеных па шляху на службу. Як мага ямчэй уладкоўваемся ў крэсле, расслабляем мускулы і, не спяшаючыся, думаем пра тое, што прыйдзе нам у галаву.

Потым, на жаль, раскладваем на стале паперы, пасля чаго зноў адпачываем. Лепш за ўсё прайсціся па пакоі, зрабіць некалькі гімнастычных практыкаванняў, падцягнуцца, скажам, на люстры, зрабіць сальта з шафы на падаконнік, стойку на левай, потым на правай руцэ і да т. п.

Пасля гімнастыкі неабходна перакусіць. Уключаем электрычную пліткy, абскубваем курыцу, што прынеслі з сабой, кідаем у вар макароны, моркву, пятрушку, потым пагружаем курыцу ў вар. Адвараная курыца — страва параўнаўча простая ў прыгатаванні і ў той жа час надзвычай спажыўная.

Пасля яды лепш за ўсё выйсці з кабінета, змяніць абстаноўку. Можна пайсці ў парк, у клуб міжнароднай кнігі, пачытаць часопісы ці схадзіць у басейн або кафэ.

Незадоўга перад сканчэннем рабочага дня вяртаемся ва ўстанову, складваем паперы і, як толькі гадзіннік праб'е чатыры, спяшаемся дадому, каб рацыянальна адпачыць пасля работы.

З польскай пераклаў М. НАВІЦКІ.


**По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44 04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24 62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15 87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.







Індэкс 63856     АТ 02596